

З Раждажством Хрыстовым!

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Ева Герасімюк ➔3

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 01 (3321) Год LXV — Беласток, 5 студзеня 2020 г. — Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# У Нарве лакальна і свойска

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

«Гісторыя ўсё жывая» — праект рэалізаваны Гмінnай публічнай бібліятэкай у Нарве ў рамках праекта «Дзейнічай лакальна», пры ўдзеле і падтрымцы Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» — міжнароднай асацыяцыі мясцовых суполак на польскім і беларускім баках мяжы. Еўрарэгіён з польскага боку складаецца м.інш. з Гайнаўскага павета, горада Гайнаўка, гмін Гайнаўка, Белавежа, Дубічы-Царкоўныя, Чыжы, Нарва, Нараўка, Чаромха, Бельск-Падляшскі і Орля, а таксама сельская і гарадская гміна Кляшчэлі; з беларускага боку — раёны Пружанскі, Камянецкі і Свіслацкі. Еўрарэгіён стварае аснову для развіцця дружалюбнага і ўзаемавыгаднага прыгранічнага супрацоўніцтва суседніх рэгіёнаў у Рэспубліцы Польшча і Рэспубліцы Беларусь, якія ахопліваюць адзіны ў Еўропе і свеце комплекс першасных лясоў Белавежскай пушчы. Нарваўская гміна Гайнаўскага павета трапна выкарыстоўвае магчымасці і падтрымку гэтай асацыяцыі і падмацоўку праектаў Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства, а сама бібліятэка прапануе цікавыя праекты, у якіх ахвотна і людна прымаюць удзел жыхары гміны, асабліва жанчыны, якія якраз пры нагодзе рэалізацыі аб'ядналіся ў новы Гурток вясковых гаспадынь (сябрамі гуртка з'яўляюцца таксама мужчыны).









Еўрарэгіён у супрацоўніцтве з Акадэміяй развіцця дабрачыннасці ў Польшчы абвяшчае штогод конкурс мясцовых грантаў у рамках праграмы «Дзейнічай лакальна» Польска-Амерыканскага фонду свабоды. Праграма рэалізуецца Акадэміяй развіцця дабрачыннасці ў Польшчы (ARFP) і Сеткай мясцовых цэнтраў. Дальнабачным памкненнем заснавальніка «Дзейнічай лакальна» з'яўляецца ўзнікненне грамадства, здольнага да самаарганізацыі і супрацоўніцтва для задавальнення агульных патрэб. Для гэтага патрэбны аніматары і кіраўнікі, якія арганізоўваюць грамадскія мерапрыемствы, а потым прасоўваюць іх на мясцовым узроўні. Праграма падтрымлівае грамадзянскую актыўнасць, у тым ліку валанцёрства, дабрачыннасць і партнёрства ў рамках фінансаваных праектаў, прасоўвае такія каштоўнасці, як вызваленне сацыяльнай энергіі, пастаянныя кантакты ў грамадзе, падтрымлівае праекты.

Штогадовы конкурс грантаў, арганізаваны лакальнымі цэнтрамі, накіраваны ў першую чаргу на мясцовых аніматараў, якія дзякуючы ўдзелу ў Праграме маюць магчымасць атрымаць каштоўны вопыт рэалізацыі праекта для сваёй супольнасці. Яны таксама маюць магчымасць пазнаць прыклады цікавых ідэй і праектаў, якія праводзяцца ў рамках Праграмы ў іншых частках краіны, з доступам да базы дадзеных праектаў, публікацыі, рэкламных фільмаў, аддаюць і набываюць розныя рэсурсы, клапоцяцца пра найлепшае выкарыстанне даручаных сродкаў, празрыстасць працэдуры, надзейнаеназіранне і ўрэгуляванне праведзеных мерапрыемстваў.

І сапраўды, пры дапамозе гэтага праекта Бібліятэка ў Нарве зварухнула ўсю грамаду, зрэалізавала выданне зборнічка з серыі «Гісторыя ўсё жывая» між іншым «Рэцэпты страў з кулінарных майстар-класаў», у якім прыгадалі і спісалі рэцэпты страў, якімі частавалі нас нашы бабкі і прабабкі ў святы і будныя дні. Некаторыя са страў маюць імёны гаспадынь — пернічкі бабулі Галінкі, сырнік бабулі Марыі, гарачая (найлепшая) бабка «гопка», панцак з мясам, шэрыя бульбяныя галушкі, розныя салаты з капустай, агуркамі, селядцы ў рознай пастаці, таўканіца, бліны і налісніки — можна было атрымаць кніжачку з рэцэптамі і пачаставацца смакоццем. Стол сапраўды найбольш яднае людзей. Таксама народнае мастацтва — у майстар-класах, праведзеных Алінай Дэмбоўскай з Бельскага музея, прынялі ўдзел рукадзельніцы з меншым і большым вопытам, таксама моладзь — былі створаны сучасны макаткі на старую моду, сабраны народныя ручнікі, намаляваны палатняныя

чытайце ☞ 10





# Беларускі Санта

Дык Санта Клаўс, ці Дзед Мароз, ці Святы Мікола? Здаецца, няшмат ёсць месцаў на зямлі, дзе дзядуля або бабуля можа ад сваіх унукаў пачуць пытанне пра тое, чым адрозніваецца Санта Клаўс ад Дзеда Мароза або ад Святога Мікалая. Бо нібыта і вопратка ў іх аднолькавая, і падарункі таксама на іх сумленні, і прыходзяць яны раз на год і прыкладна ў адзін і той жа час. Ну то хто з іх галоўны, хто лепшы, хто больш шчодры, ды ўвогуле, якая між імі розніца?

Дык вось, наша краіна, Беларусь, акурат і ёсць такім месцам, дзе дзеці задаюць падобныя пытанні дарослым. Бо ходзяць па нашай зямлі ўсе тры гэныя персанажы, і ўсе тры выконваюць нібыта тыя самыя функцыі. А так у прыродзе не бывае. Ну а дарослыя і сапраўды не ведаюць, як адказаць на дзіцячыя пытанні, бо так гістарычна склалася, што як яны самі былі дзецьмі, такіх замарочкаў не ўзнікала.

О, колькі я чуў тлумачэнняў ад бацькоў сваім маленькім нашчадкам на гэтае шчырае і наіўнае дзіцячае пытанне! Як блыталіся старэйшыя, умудроныя жыццёвым досведам людзі, спрабуючы даць дзецям хоць які, больш менш лагічны адказ!

— Мама, а хто гэта, Санта Клаўсы ці Дзяды Марозы? — пытаецца маленькі хлопчык, паказваючы пальцам праз акно гарадскога аўтобуса на дзядзькаў у чырвоных вопратках з белымі барадамі, якія, грукаючы кіямі, крочаць па цэнтральнай вуліцы горада.

— Ну я ж табе казала, што можна называць і так і гэтак, розніцы нама аніякай, — адказвае збянтэжаная маці, рыхтуючыся знайсці хоць які-небудзь больш-менш разумны адказ, калі дзіцёнак спытае чаму іх так шмат, тых персанажаў, якіх няма розніцы як называць.

Зрэшты, на маю думку, і адказ на першае пытанне быў не проста памылковы, але і дэзарыентуючы. Бо гэтыя навагоднія постаці, Дзед Мароз, Санта Клаўс і Святы Мікалай вельмі адрозніваюцца адзін ад аднаго. Розніца між імі вялікая. Дзеда Мароза нам падарыла савецкая ўлада, як матэрыялістычную альтэрнатыву Святому Мікалаю. І ён атрымаўся падобным на тое, як успрымалі рэчаіснасць тагачасныя чыноўнікі і дамінуючая руская нацыянальная большасць. Таму і дадалі да старога дзеда яшчэ і маладзенькую дзяўчынку Снягурачку. Гэты вобраз у Расіі так прыжыўся, што яны і зараз не збіраюцца нічога мяняць, хоць афіцыйна нібыта вярнуліся да праваслаўя, паводле якому святыя шукаюць сабе спадарожнікаў зусім не па эфектным выглядзе.

У Санта Клаўса, як у прадстаўніка заходняй культуры, чыста тэарэтычна недзе мусіць быць пажылая і вельмі добрая місіс Клаўс. Яна, зноў жа, чыста тэарэтычна, хіба што дапамагае ўпакоўваць падарункі, бо яны вельмі акуратна і з любоўю спакаваныя пяшчотнымі жаночымі рукамі. Але сённяшні Санта чамусьці часцей з'яўляецца не з ёй, а з бутэлькай Кока-Колы. Напэўна таму вакол яго круцяцца ўсялякія эльфы, персанажы зусім незразумелыя для маленькіх беларусаў. Але яны і ім не здзіўляюцца, хоць і прыходзяць бывае тыя еўрапейскія эльфы разам з рускімі Кашчэямі і нават з Бабай Ягой.

Святы Мікола, дарэчы, адзін з гэтай тройкі, які размаўляе па-беларуску. І прыходзіць ён стаў у першую чаргу ў беларускамоўныя сем'і, або на імпрэзы, арганізаваныя беларускамоўнай супольнасцю. Ад Санта Клаўса ён можа ўзяць эльфаў, ад Дзеда Мароза Снягурачку, а можа прыйсці і з тымі, і з гэтай. Можа нават завітаць адзін. Яшчэ не вызначыўся, як яму больш даспадобы. Як і яго краіна.

Ды і тое, што Дзед Мароз, Санта Клаўс і Святы Мікалай прыходзяць у адзін і той жа час, гэта толькі здаецца. Бо Санта Клаўс прыходзіць на Каляды па грыгарыянскім календары, і застаецца да Новага года па гэтым жа адлічэнні часу. Дзед Мароз прыязджае пазней, на Новы год па юліянскім календары, і застаецца да Новага года па юліянскім календары. І толькі Святы Мікалай прыходзіць па грыгарыянскім календары самы першы, а выходзіць па юліянскім самы апошні...

Таму, на дзіцячае пытанне, чым адрозніваюцца Дзед Мароз, Санта Клаўс і Святы Мікола, адказ хіба што ёсць. Яны адрозніваюцца цывілізацыйна. Ёсць Еўропа, ёсць Расія, і ёсць Беларусь. Ёсць яна і, як аказваецца, яна ёсць са сваёй уласнай цывілізацыяй...

Ну, а пакуль што па яе зямлі гуляюць на роўных і Дзед Мароз, і Санта Клаўс, і Святы Мікола...

І ўсе трое віншуюць з Калядамі і Новым годам!!!

**Віктар САЗОНАЎ**

# Святкуем па-вашаму і па-нашаму



У нас ёлачка, куцця, селядзец, кісель, грыбны боршч, шчолак з сушанай садавіны. А на свеце святы адзначаюцца іначай, часам нават здзіўляючы іначай. У Венесуэле — стрымгалоў у храм. Венесуэльцы вельмі рэлігійны народ, таму выдумалі, што на ранішнюю багаслужбу будуць гнаць на роліках. Ну, быццам бы вар'яцтва і несур'ёзны падыход да свят, ды ўлады Каракаса, сталіцы Венесуэлы, выйшлі жыхарам насустрач і ў 8 гадзін раніцы ў Каляды закрываюць рух на вуліцах. І вернікі могуць без перашкод гнацца на роліках у храм, апрануты святочна. А ў Японіі — святы ў галерэі. Японцы ў большасці не хрысціяне, але святкуюць па-свойму. У нас шыкуюць куццю з рыбкай і мацаком, а тлумы японцаў бягуць на святочную вячэру ў КФС, каб паглынуць вядзерца курыных сцягенцаў. Пачалося гэта ў 1974 годзе, калі «сяцёўка» прасоўвала кураня як святочную страву, рэкламуючы: «З'еж кентукі на Святы!» А ў Карэі — дзіўны святы Мікола, у зусім нянаскай стылізацыі. Замест чырвонага плашча апрануты ён у зялёны, а замест шапкі абшытай футрам мае чорны капялюш. Мае ён доўгую, кучаравую бараду, прытым чорную і бліжэй яму да Канфуцыя, чым да нашага рассмяянага і кругленькага Мікалая ці Дзеда Мароза.

На Украіне — цікавае ўбранне ёлачкі. Павуціна — гэта не першае, з чым асацыюецца са святочнай аздобай ялінкі. Але згодна з украінскай легендай, адна жанчына была такая бедная, што не мела чаго павесіць на сваё калядное дрэўца. Калі прачнуласяназаўтра, убачыла, што яго аплятае павуціннe, якое на яе вачах стала змяняцца ў залатую нітку. І бядначка ніколі ўжо не гаравала.

А ў Чэхіі дзяўчыны, якія ніколі не мелі кавалера, выконваць такую вось штучку. Адчыняюць дзверы, бяруць размах і кідаюць з-над галавы адным са сваіх чаравічкаў. Туды, куды ён упадзе, павінна кіраваць крокі дзяўчына, шукаючы сабе партнёра. Калі бот упадзе блізка, каля дзвярэй, значыць гэта, што дзеўка яшчэ сёлета заручыцца. А калі боцік упадзе дзесьці збоку, далёка да дзвярэй, значыць гэта, што з замуства нічагуткі не атрымаецца, прынамсі ў наступным годзе.

У Індыі аздабляецца бананавае дрэва, а не елка. Але не ссякаюць дрэўца, каб паставіць яго дома ў свята, але аздабляюць яго пры доме ці ля вуліцы. Часам асобныя лісткі бяруць дадому і там вешаюць на іх аздобы. Хрысціян там мала, але тыя, што адзначаюцьБожае Нараджэнне, ставяць на дахах сваіх дамоў малыя аганькі, якія сведчаць, што тут адзначаюць Нараджэнне Ісуса.

У Нямеччыне — агурок на шчасце! Немцы аб'ядаюцца піклямі, таму любоў да агуркоў культывуюць і ў святы. Хаваюць ад дзяцей ёлачны шарык у форме агурка. Той, хто яго знойдзе, атрымае бонусавы прэзент, а шчасце не пакіне яго цэлы наступны год!

У Расіі і ў Славакіі галава сям'і ў час святочнай вячэры набірае першы кус на відэлец і ... кідае ім у столь. Чым больш стравы прыклеіцца да столі, тым больш шчасця будзе мець уся сям'я. Падказка: можа лепш не кідаць бураком ці селядцом, хутчэй выбраць варэнікі з капустай ці грыбамі — ёсць шанц, што страва прыклеіцца да столі цэлая!

На Куццю не ўхіляйся ад пацалунку пад амялой, а на новы год прынось знаёмым селядца ў чырвоным соусе. Адмаўленне ад пацалунку пад амялой гэта не толькі нетактоўнасць. Цалаванне пад амялой гарантуе ўдачу ў надыходзячым годзе ды прыносіць шчасце ў каханні. А адмаўленне ад пацалункаў можа прынесці вялікія няшчасці на ўсе 12 месяцаў! Не дарый пары рукавічак у якасці прэзенту пад ёлачку, прытым каханай асобе. Гэта значыць адно — хуткае расстанне па прычыне таго трэцяга ці трэцяй. Падобна, калі пад ёлачкай апынецца брошка або нож. Няўдачу можна адагнаць, даючы ў рэваншы... манету. Дзякуй Богу! А калядныя аздобы не знятыя перад 12 ноччу сцягваюць няўдачу. Калі хочаш іх пазбегчы, трэба прыбраць усе да 12 сутак пасля свят. А ёлачку можна трымаць убраную да Вадохрышча. На злыя духі, што захацелі б увайсці ў вашу хату, шыкавалі дымную засаду — паленца ад каляднай ёлкі палілі ў печы, найлепш з паленцам з папярэдніх Каляд. Рэшткі са спаленага палена былі вельмі каштоўныя — мелі спецыяльнае месца дома і служылі як магічны громаадвод. У Францыі верылі, што попел з такога паленца распылены па палях ахоўвае плён ад гніцця. Так што прымхі і абрады хрысціянскага свята маюць вялікую прымесь магіі, абрадаў і забабонаў язычніцкіх і іншаверных. Са Святам!

**Міра ЛУКША**



Сваімі вачыма

# Калядны хаос (2)

Вось першыя калядныя святы за намі. Пішу калядныя, а не толькі каталіцкія ці пратэстанцкія. Бо ж і праваслаўнае каляндарнае „безобразіе" ў самой Польшчы ў справе гэтай даты рэальна дазваляе святкаваць кожнаму на свой лад і строй. Адным словам, «няма цара, няма і парадку», — сказалі б нашы продкі, якія апынуліся ўжо перад аблічам Цара Нябеснага. Колькасць мяшаных сем'яў ці сяброўскіх кампаній зносіць справу выконвання царкоўнага календара, а змест самога дня святкавання бывае толькі фармальнай, літургічнай выявай. Не мне тут вырашаць дагматычныя і каляндарныя справы, але гэтае пытанне Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква мусіць развязаць рашучымі дзеяннямі. Усе простым вокам бачаць двухсэнсавасць такой сітуацыі, якую стварыла сама Царква, даючы згоду ў межах адной аўтакефаліі святкаваць Раджаство Хрыстовае ў двух тэрмінах. Паміж дагматычнасцю і двухсэнсоўнымі дзеяннямі заўсёды з'яўляецца рэлятывізм і сумненні наконт адзінай веры ў праўдзе. Разыходжанні паміж календарамі — грыгарыянскім і юліянскім — не павінны, па-мойму, існаваць у адной краіне. Або так, або так. З аднаго боку маем і заходні час святкавання, а з другога і часціцу рускага міру. Як тады ў такой сітуацыі незахаванне Піліпавага посту патлумачыць у час споведзі святару, калі прыходзіцца ехаць менавіта за Віслу да сваіх сяброў ці дзяцей праслаўляць ужо нованароджанае Дзіцятка Божае? Зразумела, з поўным удзелам у калядным застоллі. Вазьмі і не звар'яцей ад гэтага. Нагадаю, што менавіта такія праваслаўныя краіны як Грэцыя, Румынія, Балгарыя святкуюць 25 снежня і справа ўсім поўнасцю зразумелая. Ніхто не папракае і не закідае ім, што яны горшыя праваслаўныя, ці тым больш не дагматычныя. Наадварот, мы захапляемся іхняй стойкасцю ў веры, манастырскімі пабудовамі і манаскімі паклікапнямі. Мне асабіста больш падабаецца святкаванне Раджаства Хрыстовага менавіта студзеньскім чыслом. Усё з-за ўспамінаў з дзяцінства, калі гэтыя святы неразрыўна былі звязаны з уладараннем снегу, марозу і сонца ў краявідзе. Таксама апошнім часам невялікія марозы і снежная пярынка здараюцца яшчэ шостага студзеня і наступнымі днямі. На фоне адвечнай падляшскай спрэчкі, чые святы больш справядлівыя, каталіцкія ці праваслаўныя, аргумент надвор'я нашмат важнейшы і пераканаўчы ад дагматычна-каляндарных разборак мудрагелістых багасловаў сястрынскіх касцёлаў. Так любяць гаварыць пра сябе сёстры навонкі, а ў сапраўднасці — гэта сёстры, якая кожная хоча мець перавагу і здабыць перамогу адна над другой. Пішу пра калядны хаос таксама наглядаючы за маімі сябрамі і сяброўкамі, якім выпала змагацца з часам, праездамі, падарункамі і стомленасцю ў выпадку двайнога святкавання. У выпадку маёй сям'і гэта таксама не адасобленая справа.Тое, што для многіх з'яўляецца рэкламнай адрознасцю праваслаўнай часткі Падляшша на фоне ўсёй краіны, для яе жыхароў становіцца рэальным выпрабаваннем духоўных і матэрыяльных сіл. Тут з дваццаць чацвёртага снежня па дваццатае студзеня наша жыццё знаходзіцца пад дадатковай рызыкай апынуцца ў бальніцы ў выніку аднаго з чалавечых грахоў — абжорства і п'янства. Падвоеныя святы, падвоеныя стандарты, падвоеныя віншаванні. Усё гэта яшчэ ахінутае ў тэатральны спектакль свецка-духоўнай улады каталіцкай і праваслаўнай канфесій, што дзеляцца не толькі аплаткай, але і палітычнымі дамоўленасцямі. А кожны такі спектакль выбудоўвае і сцэментоўвае гэты сімбіёз. Адным словам, шызафрэнічная рэчаіснасць паміж Бугам і Бобрай. Можа каб у гэты перадсвяточны перыяд праваслаўнага Раджаства Хрыстовага не быць занадта наракаючым, хочацца мне верыць, што для нас і нашых сем'яў Хрыстос нарадзіўся, каб паказаць той шлях, які, хаця высцелены выпрабаваннямі і цярпеннямі, з'яўляецца нашым чалавечым адчуваннем годнасці імгненнасці ў святле вечнай Віфлеемскай зоркі.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Самы цудоўны ўспамін: паездка ў Беларусь

**Ева ГЕРАСІМЮК** – настаўніца беларускай мовы ў Дубінах. Нарадзілася ў прыпушчанскім Арэшкавае (дзявочае прозвішча Себяшук). Закончыла факультэты гісторыі, матэматыкі і педагогікі на Універсітэце ў Беластоку. Ад двух гадоў працуе таксама дырэктарам школы ў Арэшкавае. Жыве ў Гайнаўцы.



**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Я адсюль. З роднай старонкай я звязана з часоў дзяцінства. Люблю беларускую мову, цікавіць яна мяне.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— У мяне няма такога аднаго ідэала.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Так, супрацоўнічаю са школай у Арэшкаве.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— АБ-БА, БГКТ.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— На занятках мы гаворым на тэму «Культура і архітэктура маёй мясцовасці».

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— «Роднае слова» і «Пазнай Беларусь».

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— У невялікай ступені.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Складанасць.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Так, паспяваю.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У гэтым годзе дзве асобы перайшлі на далейшы этап конкурсу.

**— Ці паводле Вас падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Не, не дапасаваныя яны да сучаснасці.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Кругагод».

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Віктар Швед.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Вершы Віктара Шведа.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**




■ У Камянцы, ля Белай Вежы



■ Школа ў Дубінах

— Так.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Канцэрты беларускай песні, фестываль «Бардаўская восень».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Так.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Не, не маю такіх успамінаў.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Здаецца, няма такога.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Так, ёсць.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Не.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Падзяка і радасць вучняў.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Паездка ў Беларусь на курсы падвышэння кваліфікацыі для настаўнікаў беларускай мовы.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Знак Пагоні.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Думаю, што ў беларусаў вельмі цяжкая будучыня. Нас усё менш і менш. Парываецца пачуццё сувязі з беларусамі.

Апытальнік правяла

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Навагоднія разважанні

Хутка сцякае час. Не паспеў чалавек аглянуцца, як прайшоў дзень, тыдзень, месяц, затым год. Як з біча стрэліў. Здаецца, што нядаўна браў я пакет „Нівы" з календаром у рэдакцыі. Гэта было на Варвару 17 снежня 2014 года. Пяць гадоў, не мала. Зараз сяджу закуты ў чатырох сценах. Хвароба зняволіла. Не ведаю, што ў наваколлі робіцца, у гміне дзеецца. У Чаромсе шмат перамянілася. Чыгуначны вакзал мадэрнізавалі. Вярнулі адмененыя ў 1999 годзе цягнікі. Бурліць культурнае жыццё ў Гмінным асяродку культуры. Славяцца чаромхаўскія Фолькавыя сустрэчы. Вядома, гэта заслуга Барбары ды Мірaслава Самасюкоў. Я зараз не ў змозе ўдзельнічаць у мерапрыемствах, пісаць аб усім. А запрашэнняў шмат паступае — з кляшчэлеўскага МОКСіРу, ад гайнаўскага Беларускага музея, ад сімпатычнай Марыёлі Герман-Петручук з Дубіноў. Што мне засталося? Адно ўспамінаць мінулае, пісаць у „Ніву" ды чакаць „лепшага заўтра". А ці будзе гэтае „лепшае заўтра", цяжка згадаць.

Цікаўлюся гаспадарча-палітычнымі пераменамі ўпраўляючай „добрай змены" і, часам хочацца крычаць: «Госпадзі, чаму бачыш, а не грыміш». Ці так павінна паступаць Права і справядлівасці, як зараз робіцца? Не змаглі здабыць большасці ў сенаце, не пашанцавала перакупіць незалежнага сенатара, дык пачынаюць пісаць ананімы на маршалка сената, быццам бы гэты браў хабары будучы лекарам дзесяць гадоў таму. І гэта мае быць верагоднасць „добрай змены"? У выбарчай кампаніі суверэну абяцалі „залатыя горы", што не будзе прыбавак на электраэнергію, газ. А што маем? З пачаткам года павышаюць цэны. Упраўляючыя тлумачаць, што на невялікія сумы, сем-дзевяць злотых ад рахунку ў месячным падліку. Даражэе акцыз на спіртное і папяросы. Ідзе гаворка аб цукровым падатку. Павышаюцца цэны агародніны, фруктаў ды транспарту. Не ўспамінаю аб мясных вырабах і харчовых прадуктах. А што будзе далей адзін Усявышні ведае. Вось якія падарункі рыхтуе суверэну каманда прэзаса Качыньскага.

А напярэдадні Божага Нараджэння прэм'ер Матэвуш Маравецкі з прэзідэнтам і першай дамай, а таксама многія парламентарыі віншавалі народ з Нараджэннем Хрыстовым і запрашалі да сябе на Куццю, напамінаючы пры тым, каб не забывалі пра іх у час выбараў.

**Уладзімір СІДАРУК**




## Святліца ў Старым Ляўкове...

...запрашае ўсіх ахвотных ад аўторка да суботы ў гадзінах ад 12-й да 20-й, між іншым, на кулінарныя заняткі (гатаванне і пячэнне), на настольны тэніс і більярд ды ў панядзелкі ад гадзіны 16-й да 18-й і ў суботы ад 12-й да 16-й на лепку з гліны. Варта дадаць, што разьбу з гліны выпальваюць у Стараляўкоўскай керамічнай фабрыцы. У печах з высокай тэмпературай становяцца яны трывалай керамікай прыгожага ружовага і чырвонага колеру. У Ляўкове выконваюць мастацкую разьбу, памятныя і практычныя прадметы штодзённага ўжытку.

**(яц)**

# Шахматныя баталіі ў горадзе Заменгофа



**Вучаць логіцы, стымулююць уяўленне, паляпшаюць канцэнтрацыю. Больш за трыста шахматыстаў з Польшчы і замежжа сустрэліся ў Беластоку. Менавіта тут з 27 па 31 снежня праходзіў XXXVIII Мемарыял Людвіка Заменгофа, які сёння з'яўляецца адной з шахматных падзей года ў Польшчы.**

Гульня ў шахматы мае вельмі доўгую гісторыю, але яе пачаткі да канца невядомыя. Розныя даследчыкі падаюць розныя месцы і гісторыі паўстання. Гульня, хутчэй за ўсё, паходзіць з Індыі, з V па VI ст. да н.э. Сучасныя правілы ігры, верагодна, былі ўдакладнены ў Персіі. „Шах мат" на гэтай мове азначае „кароль ёсць мёртвы".

Сёлета амаль 300 шахматыстаў з сямі краін свету з'ехала ў горад Заменгофа на спаборніцтвы. Патрон Мемарыялу Людвік Заменгоф быў паліглотам, лекарам і перш за ўсё стваральнікам міжнароднай мовы эсперанта. Шахматны турнір яго імя папулярызуе шахматны спорт сярод дзяцей, падлеткаў і дарослых.

—Хочам Мемарыялам аддаць гонар Людвіку Заменгофу, які быў адным з найвыдатнейшых беластачан, — сказаў старшыня Падляшскага шахматнага саюза Лешэк Зэга. — Сёлета маем каля 300 удзельнікаў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы, Мальты, Расіі і Палесціны. З Беларусі прыехала найбольш удзельнікаў, каля 30 шахматыстаў, у першую чаргу з Гародні і Мінска і гэта добрыя гульцы. Аднак сёлета не прыехаў з Беларусі ніводзін гросмайстар.

Мемарыял — мерапрыемства з надзвычай прыгожай гісторыяй. Турнір праводзіцца з 1979 года. Яго стваральнікам і галоўным арбітрам быў Ян Гурскі (1929-2009), тагачасны старшыня Акруговага шахматнага саюза Ваяводскай федэрацыі спорту ў Беластоку. Сёння арганізатарам мерапрыемства з'яўляецца Падляшскі шахматны саюз і Міжшкольны вучнёўскі спартыўны клуб «Сточак 45 Беласток».

— Шахматы развіваюць таленты і талент развіваецца дзякуючы шахматам, — кажа Лешэк Зэга.— Калі нешта там у чалавеку дрэмле, шахматы могуць дапамагчы таму ўзрастаць. Шахматы развіваюць навыкі крытычнага мыслення, а таксама маюць тэрапеўтычныя ўласцівасці.



Старшыня Падляшскага шахматнага саюза Лешэк Зэга

— Цяжка вывучыць дарослым, але дзецям да 5 года жыцця гэта нескладанае, — кажа Лешэк Зэга. — Гэта так, як з замежнымі мовамі — малодшым даюцца лягчэй. Усё-такі талент гэта не ўсё. Самыя лепшыя шахматысты трэніруюць штодзень па некалькі гадзін. Без гэтага нельга было б разлічваць на добрыя вынікі.

Штотыдзень у Пачатковай школе № 45 адбываюцца турніры па шахматах. Між іншым, дзякуючы таму Беласток сёння мае трох гросмайстраў. Сярод іх Рыгор Насута, які пачынаў гуляць у шахматы ва ўзросце пяці гадоў і цяпер стаў 49 гросмайстрам Польшчы.



Айцец Ян Койла

У шахматным Мемарыяле прымалі ўдзел гульцы розных катэгорый. Падзяліліся яны на чатыры групы ў залежнасці ад сілы гульні. Кожны шахматыст гуляў дзевяць гульняў.

— Для мяне шахматы важныя і я магу без перабольшвання сказаць, што шахматы часам ратуюць мне жыццё, — прызнаўся адзін з гульцоў, спадар Генрык. — Калі нешта не ладзіцца, шахматы дапамагаюць аднавіць спакой і раўнавагу. Літаральна дзякуючы шахматам я адчуваю сябе больш здаровым, хутчэй вяртаюся да здароўя нават у выпадку хваробы, бо розум не спыняецца на клопатах, дрэнных думках ці эмоцыях.

Шахматы — спорт, якім варта займацца з ранняга ўзросту. Яны вучаць канцэнтрацыі, стратэгічнаму і лагічнаму мысленню і вучаць як прайграваць.

— Гросмайстар гэта самы высокі тытул сярод шахматыстаў, — тлумачыць Лешэк Зэга. — Каб ім стаць, трэба пачаць ад пятай катэгорыі, дайсці да першай, пазней трэба стаць кандыдатам у майстры, стаць майстрам, стаць міжнародным майстрам... Як бачыце — справа складаная. У Польшчы 50 асоб заваявала званне гросмайстра. Частка іх ужо не жыве.

Кожны жадаючы можа дапісацца да шахматнага клуба, які дзейнічае па пятніцах у Пачатковай школе № 45 па вуліцы Лагодная, 10. Ахвотная асоба пасля рэгістрацыі і аднаразовай аплаты можа сесці за шахматны стол. Заняткі пачынаюцца ў 17:15.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

# Любіла працаваць

Размова з **Яўгеніяй ТХАРЭЎСКАЙ**, у дзявоцтве Станіславюк з Крывой, 1949 года нараджэння, зараз пенсіянеркай, у 2006-2014 гадах солтысам Орлі.

**❖ Ці помніце сваіх дзядоў. Вашу сям'ю ў Крывой?**

— Памятаю, што бабуля Еўдакія з боку бацькі Яна жыла 103 гады. А з боку маці Анны памятаю дзедка Каліні, а бабуля Анна, у дзявоцтве Нікалаюк, была з калёніі Петухоўка. Бацька Ян расказваў, што нашы лугі цягнуліся ад шашы да ракі Арлянкі і называліся Балота. Як пайшоў па кароў, то акурат надыходзілі немцы на рускіх. Маем там свой лес, у дрэвах было многа асколкаў і ў тартак баяліся браць. У мяне старэйшая сястра Тамара з 1947 года і брат Ваня з 1944 года, а я наймалодшая. У Крывой зараз няма ўжо нікога; уладанне апісана на майго сына.

**❖ Школа?**

— У школу хадзіла ў Крывой, было сем класаў; хадзіла таксама ўжо ў новы будынак. А пасля падставоўкі нікуды, асталася дома, на гаспадарцы. Бо і не было такіх варункаў.

**❖ У Крывой быў калгас. Ведаю, што спачатку вельмі змушалі ўступаць у калгас. А як было пры Вашай памяці?**

— Не прымушалі, абраблялі свае палі. Але што ж... Поле было так раскінутае, па тры-чатыры кіламетры. Адно наша поле было пад Ракавічамі, сенажаць была каля Агароднік, мелі таксама поле пры шашы, дзе шчытоўскі прыпынак ПКС — па абодвух баках дарогі. То трэба было ўсюды ездзіць конікам. Тады на полі было поўна людзей, а цяпер нікога не пабачыш.

**❖ Як Вы пазнаёміліся з мужам, пакойным Колем?**

— У Орлі. Прыехала сюды ў банк і тут пазнаёміліся. У Крывой было вельмі многа моладзі, маіх равеснікаў было мо з пятнаццаць. Усе ў гарады пайшлі, асталося нямнога.

**❖ А калі Вы прыйшлі жыць у Орлю, то тут было інакш чым у Крывой?**

— Як прыйшла жыць у Орлю, то казалі: „О, завалока прыйшла, мужычка", — так называлі арляне. Але тых арлянскіх людзей то вельмі мала — усё завалокі, мяшаныя сужонствы.

У Крывой то было вельмі весела, збіраліся на лавачках, спявалі, у Рузддво калядавалі, а пазней балявалі, забавы рабілі. А цяпер? Усё колішняе стала занікаць. Калісь жыццё было цяжэйшае, але весялейшае.

**❖ Ну, і Вы пачалі жыць у Орлі...**

— Замуж выйшла ў 1970 годзе. Коля быў яшчэ да чэрвеня ў войску ў Гайнаўцы. І адразу сталі жыць тут, у Орлі, у гэтым доме. Мужа выхоўвала яго бабуля Шура Заянчкоўская. Працавала яна на кухні ў школе, а пазней прыбіральніцай у аптэцы. Яе муж раней, пры санацыі, будаваў мост, школу, млын.

**❖ І як вы, маладыя, пачыналі сваё супольнае жыццё?**

— Не было ў нас поля, але потым можна было з гміны браць у арэнду. А Коля працаваў трактарыстам у эскаэры. А я ў полі. Гадавалі кароў, нават многа, гадавалі свіней.

Ці было цяжка? Многа перажыла. Арала канём, навучылася яшчэ ў Крывой. Калі было многа поля, бацька ехаў чуць свет араць, то калі я раніцай заганю кароў, кажу змучанаму бацьку: „Давай я буду араць". І калі прыйшла ў Орлю, то рабіла. І рукамі даіла, і вазіла далёка, з-пад лесу ў напрамку Рудутаў. Два бітоны, сорак-пяцьдзясят літраў, і цягнеш аж ногі пераставалі працаваць. Цяпер „без рук, без ног" — пасля аперацыі суставаў. А пазней панабіралі поля, а каня не было. То прасілі ў людзей, а потым ішла адрабляла — бульбу капала, малаціла, усяк было.

Мелі ўжо пару коней. Памятаю — паехала па збожжа, дзеці паганілі каня, а я паляцела, дзеці злякаліся. Усяк было — і цяжка, і добра. Пражылося. Займалася тройкай дзяцей і гаспадаркай, полем. У 1983 годзе купілі новы трактар, „шасцідзясятку", але і каня трымалі.

**❖ А як Вы падведзяце жыццё ў ПНР?**

— Тады было вельмі добра, а пры Герку асабліва добра, бо возьмеш пазыку. Узялі колькісь там пазыкі і калі прыйшлося сплачваць, то пару грошай чалавек плаціў, бо толькі 2%. А цяпер то тымі працэнтамі дабіваюць і ўсё ім мала. То ж калісь за што купіш? Халадзільнік бралі на раты.

Коля быў пажарнікам і пажарнікі ладзілі ў дэпо забавы. А калі ў эскаэры працаваў, то там было ўсё для дзяцей працаўнікоў — ёлкі, ладзілі экскурсіі, былі ў Аўгустове...

У эскаэры было кола гаспадынь. Была пазычальня пасуды, бо калісь таго не мелі. Людзі бралі пад вяселлі. Калісь вяселлі дома арганізавалі. Б'еш бычкі і робіш вяселле. А сёння ў „Маэстра", усё гатовае.

**❖ Але ў гэесаўскіх крамах цяжка было што купіць, трэба было мець знаёмствы.**

— Замнога тавару не было. А ў час ваеннага становішча таксама было складана. Але былі карткі — пайшоў і сабе купіў. Але то бралі, бралі, а пасля выvalьвалі ў сметнік.

**❖ Ці, паводле Вас, ваеннае становішча было патрэбнае?**

— Калі б не ваеннае становішча, то можа нас даўно ўжо не было б, бо ўсіх бы павывібвалі. Памятаю ноч, калі аб'явілі ваеннае становішча. Ноччу мы ўжо спалі, чуем грукат у акно. Гэта міліцыянер Весек Нявінскі: „Nu, Mikołaj, wstawaj, bo wojna". Забралі мужа ў запас і паехалі. З Орлі былі яшчэ Алёша і Алесь, а са Шчытоў быў Коля. Былі ў Бельску, а пазней у Катавіцах. Бывала, прыедуць увечары аўтобусам, з'ядуць у хаце вячэру і паехалі. У Орлі армовец правяраў у людзей пашпарты, калі ў краме ў чарзе стаялі.



Спадарыня Яўгенія перад сваім домам з сабакам Джэкі

**❖ Вы таксама былі ў Орлі солтысам, першай жанчынай з гэтым званнем.**

— Солтысам была два тэрміны, да 2014 года. Орля тады была большая, тысячу чалавек, а цяпер хіба 700-800. Але я не ленавалася, хадзіла па хатах, збірала грошы, бо ад таго была правізія — невялікая, але колькі ўзбіраеш, столькі маеш. І на сесіі Гміннай рады атрымаеш крыху грошай, можа 50 злотаў, пазней было 120 злотаў. Любіла з людзьмі працаваць.

**❖ Вы жывяце амаль па-суседску з вядомай шаптухай. Увесь час там поўна самаходаў...**

— Калісь людзі коньмі прыязджалі.

**❖ Вы зараз займаецеся продажам газу. Гэта добры інтарэс? Калісь не было такога доступу...**

— Людзі карыстаюцца газам і летам газ добра ідзе. Але што ж, калі на маёй вуліцы „Gastrol" у мяне, праз тры хаты зноў „Gastrol" або „Barter". У самой Орлі ёсць шаснаццаць пунктаў продажу газу. У радыусе трохсот метраў маем тры такія пункты. Калісь было вельмі складана з газам. Трэба было найперш мець свой балон і пасля мяняць. Даўней людзі на плітах варылі і калісь звараная ежа была смачнейшая. Што з печы, то з печы. У мяне дома цэнтральнае ацяпленне таксама з кухоннай пліты. Летам не палю, то на газе вару.

Я пункт продажу газу ўзяла дзеля сябе і сваіх дзяцей. Бяруць суседзі і я ўжо нікога не патрабую, каб да мяне прыходзіў па газ. Але цэны скачуць, нават у самім „Гастролі" неаднолькавыя. Зараз балон каштуе 48 злотаў. Пусты балон калісь каштаваў 110 злотаў і газ быў таннейшы — 40 злотаў.

**❖ Кажуць, што зараз і характар жыхароў Орлі памяняўся...**

— Калісь сусед з суседам жылі як блізкія сваякі. А цяпер адзін другога ў лыжцы вады ўтапіў бы. У мяне то ўсе суседзі добрыя — калі я ў шпіталі, то за панадворкам даглядае мая суседка Тамара. А калісь, як бульбу капаем, то ўсе кагалам — у аднаго, другога... А цяпер ніхто нікому не хоча дапамагаць.

**❖ Дзякую за размову.**

❖ Размаўляў і сфатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Аліўка Козёл: я цікавая свету

**Аліўка Козёл, наймалодшая ўдзельніца «Дэбюту», нарадзілася ў Лондане. У Міхалова, адкуль родам яе мама, вярнулася ва ўзросце трох гадоў. Зараз яна вучаніца чацвёртага класа ПШ у Міхалове. У XXII Агульнапольскім літаратурным конкурсе «Дэбют» атрымала вылучэнне.**

**Аліўка:** — Свой лонданскі час «памятаю» толькі са здымкаў, але пэўна штосьці ад гэтага засталося... Я цікавая свету.

**Зорка:** — Як узніклі Твае вершы?

**Аліўка:** — Я патрабавала такой цішы, каб вывесці думкі на паперу, таму не магла нічога напісаць у школе, на ўроку. Там няма патрэбнай цішы і часу, каб засяродзіцца і пісаць.

**Зорка:** — Нехта дапамог?

**Аліўка:** — Мая бабуля жыве ў іншай хаце, таму я разлічвала толькі на сябе. І мела з гэтым крышку клопатаў. Бо хаджу на беларускую мову толькі другі год і мне не хапае слоў. Таму поспех аказаўся для мяне вельмі вялікай нечаканасцю.

**Зорка:** — Настаўніца дапамагала?

**Аліўка:** — Крышку дапамагала. Я сама яшчэ не ўмела зрабіць усяго як трэба.

**Зорка:** — Здаецца, год таму Ты таксама прымала ўдзел у «Дэбюце»?

**Аліўка:** — Так, так...

**Зорка:** — І напэўна атрымала ў падарку беларускія кніжкі. Ты прачытала іх?

**Аліўка:** — Гэта цікавая гісторыя. Кніжкі я прачытала з дзядзькам, які працуеў Беларусі і добра ведае мову, размаўляе са мной па-беларуску.




*Фота: Ганны Кандрацюк*

**Зорка:** — Файны дзядзька. Ён з Міхалова?

**Аліўка:** — Не, з Гарадка.

**Зорка:** — А як называецца?

**Аліўка:** — Андрэй Козёл.

**Зорка:** — Я памятаю Твайго дзядзьку. Ён, калі быў у Тваім узросце, ад рукі складаў беларускія рыфмаванкі і мы друкавалі яго вершы ў «Зорцы».

**Аліўка:** — Па-беларуску размаўляе яшчэ мой дзедка, таму я хачу добра вывучыць мову, каб усё разумець, пра што ён гаворыць.

**Зорка:** — Падабаюцца Табе ўрокі беларускай мовы ў школе?

**Аліўка:** — Так. Год таму, калі ў школе ладзілі «Яслі», я выводзіла свой клас на сцэну і мы спявалі беларускую калядку «Вясёлая нам навіна». Для мне цікава вывучаць культуру іншых народаў. Я сама буду святкаваць два разы Каляды. Хаджу таксама ў клас з англійскай мовай і мне гэта добра ідзе. Вельмі цікава і важна вывучыць мову сваіх продкаў і сваякоў.

**Зорка:** — Аліўка, я бачу — ты хутка думаеш і хутка вучышся. Ці калі спаткаемся праз год, то будзем ужо гаварыць па-беларуску?

**Аліўка:** — Я пастараюся, і абяцаю...

Алівія КОЗЁЛ
ПШ у Міхалове

## Размова

Два трусікі на сонцы грэліся,
Але размовы захацелася,
Яны пыталі адзін другога,
Але адказу не зналі.
Вырашылі саву папытаць,
Іх загадку развязаць.
Але сава, мудрая-галава,
Адказу не знала,
Загадкі сонечнай не развязала.

## Спадарыня Зіма

Пытаецца малое лісянятка:
Калі Зіма пачнецца?
Калі снег прынясецца?
Калі снежную бабу злепіцца?
Так прыемна ў белым пуху,
Так весела гуляць на снегу!
Калі ж Ты прыйдзеш,
Спадарыня Зіма?

## УВАГА КОНКУРС! № 01-20

**Ляжыць калода, у той калодзе дванаццаць гнёздаў, а ў тых гнёздах па чатыры яечкі, а ў тых яечках па сем заклювак.**

Г.., 12 м......, 4 т....

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 19 студзеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на адгадку № 49: вецер.

Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі Оля Мадзалеўская, Оля Хіліманюк з Нарвы, Эмілія Аніськевіч, Лідзія Анішчук з Шудзялава, Дам'ян Карнілюк з бельскай «тройкі», Давід Сурэль, Якуб Аверчук з Арэшкава. Віншуем!

Магдалена ДРАЗДОЎСКАЯ

## Каханне

Кожны кахання смак пачуў,
Гэтак хочацца і мне.
Тую чароўную любоў прытуліць,
За руку трымаць.
Пра нішто не думаць,
Толькі кахаць!

## Маска

Шалёныя дзеці пакінулі маскі правіл,
Пайшлі даўнія дні, якія былі поўныя.
Гэтак прыцягаеш мяне,
За руку трымаць цябе хачу,
Хаця б за руку трымаць цябе.
Гуляйце, дзеці,
Не спрачайцеся,
Хай сваркі канчаюцца.
Маскі, трымайцеся!


Дзеці строяць штучную ёлку

Сцэнка з «Яслей» у Бельскай «тройцы»



# Міфы старажытных беларусаў

Беларусь часта завуць «сінявокай краінай». Гэты назоў прыдумалі літаратары, якіх натхніў вобраз квітнеючых васількоў у збожжы. Гэтае спалучэнне стала «каляровым» брэндам краіны. Таксама ў сіні колер размаляваны падляшскія цэрквы і крыжы. Але гэта ўжо сучасная колерная сімволіка.

Зусім іншае святло на гэты колер кідаюць павер'і старажытных беларусаў.

**З сінім колерам** беларусы звязвалі свет памерлых, са зганнем і скананнем. Ён вызначаў, чужую, поўную небяспекі прастору. Знахары ў сваіх замовах адсылалі хваробы і немач — «на сінія лозы» ці на «сіняе мора». З сінім колерам спалучалі таксама эпідэмію халеры. Пошасць уяўлялі пад вобразам высокай і худой жанчыны з сінім целам. «*Яна, тая халера, сіняя бы пуп*», — гаварылі.

Людзі меркавалі, што ў сіняе адзенне ахвотна пераапранаюцца нячысцікі і злыя дэманы. Сіні колер быў таксама прыкметай падзямельнага агню і зачараваных скарбаў, якія свецяцца ўначы сінім агнём.

З назвамі «сіні» на Беларусі сустракаюцца розныя прыродныя аб'екты, у тым ліку камяні, азёры, рэкі. У Валожынскім раёне існуе Сіняя гара, ля якой знаходзіцца аднайменная вёска. Народнае паданне тлумачыць назву тым, што гара раней дымілася. На Магілёўшчыне вядомы Сіні калодзеж і Сінія ўзгоркі.

У падляшскіх старых песнях няшчасных персанажаў пасылаюць «да сіняга дунаю»*, каб там утапілі сваё гора.

(Адрэзак адрэдагаваны паводле кніжкі Алены Коршак *Беларуская міфалогія для дзяцей*).

* Дунай — сімвал вялікай ракі ў старажытнай паэтычнай творчасці славян.

**(гак)**

Міра ЛУКША

## Ёлачка

Ёлачцы ў лесе міла
паміж сёстрамі зялёнымі.
Ды на свята захапілі:
будзеш дамай у нашым доме.
Мы абсыплем цябе срэбрам,
убярэм анёлкамі,
зорку ў чуб учэпім небную,
павуцінку — у голачкі,
пернічкі, цукеркі, вата,
ланцужкі і свечкі...
Уся засвеціцца нам хата,
і ты з намі — вечна...
Бо дзянькі твае апошнія
правядзеш ты з намі.
А па святах у кут пойдзеш
і згарыш з дрывамі,
або на двары, пад плотам,
сыпаць будзеш слёзкі.
Лепш расці не ў адзіноце,
з сасонкай, бярозкай.
Будзь у лесе ты князёўнай,
зялёнай, прыгожай,
штораз большай, красы поўнай,
шумі, заварожвай.
Святкуй у лесе, са звярамі,
у шчасці і без звады
Духам будзем разам з вамі
адзначаць Каляды.

# Польска-беларуская крыжаванка № 01-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 49-2019:**

Шум, ансамбль, сноп, падвал, маланка, рава, калядкі, матыў, рака, Пі, сем, тры, сем, наш, скрыня, асёл, герань, ногі, імам, мастак, бабёр. Абмена, драма, сват, шанс, навык, сот, голаў, ёга, Толік, мары, гіт, смала, сем, ляк, краб, Ада, рама, банк, сын, кіпень, імя, ар.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Габрыель Карпюк, Зузанна Самоцік, Вікторыя Сухадола** з Нараўкі, **Патрыцыя Нявінская, Паша Пахвіцэвіч, Рафал Міранчук, Сара Марціновіч** з Орлі, **Клаўдзія Ніканчук, Вікторыя Якімюк** з Нарвы.

Віншуем!

Olcha
Książka
Słowo
Grzyb
Chór
Grusza
Alabama
Bierz
La
Słuch
Mucha
Klan
Amor
Album
Dar
Mech
Ruda
Tuwa
Morze
Cham
Chmura

Частка 10

# Генетычны алфавіт

Вяскоўцы то амаль усе любілі пра сваё салдацтва размаўляць, як дзеці казкі слухаць. Васіль тут не выключэнне. Як нап'юцца, то давай апавядаць, у каго які старшына быў там і хто ў гады сваёй маладосці больш пабачыў. Пачынаюць з праўды, а пасля і напрыдумваюць чаго. І самі вераць. Ну, а пра што размаўляць ім, як не пра армейскія ўспаміны? Далей, пасля войска, толькі калгас і гной растрасай віламі. Вось і ўсё жыццё ў гноі. Пра што тут распавядзеш? Толькі і заставалася што пра службу. Бо толькі там нешта і магло здарыцца. А ў Васіля дык лепш за ўсіх выходзіла. Герой, і толькі! Адзінае, што тое вядро крыху псуе аповед. Ну трэба ж, на вядры на непрыяцеля!

І яшчэ вяртаннем назад праз Польшчу на цягніку хваліўся Васіль. Палову Еўропы пагледзеў, маўляў, у адрозненне ад іншых. А як у тую Еўропу яшчэ можна было патрапіць савецкаму грамадзяніну, як не з аўтаматам Калашнікава ў руках і па загадзе камуністычнай партыі Савецкага Саюза. І медалём ганарыўся, хоць так і не ведаў, за што яго далі, ці для чаго. Але хіба той медаль раённае начальства і заўважыла, таму і прапановы рабіць стала. А калі нешта прапаноўвае гэтае начальства, то кар'ера забяспечана.

І вось замест усіх гэтых перспектыў толькі бяссонныя ночы пад вокнамі Аленінай хаты. Ажно вочы сталі падобныя да вачэй савы ў Касабуцкім лесе. Ды яшчэ бойкі за яе з мясцовымі кавалерамі і доўгія ды настойлівыя спробы дамагчыся ўзаемнасці. Лётаў за ёй, як сабака па рынку. Яна то спачатку ўпіралася, ерыпенілася, наравістая была, як неаб'езджаная кабыла. І вось нарэшце яны разам. Толькі на апошні крок яна адважыцца не можа, нібыта ён ёй з самалёта АН-12 скачок без парашута прапаноўвае. А яму трэба гэты апошні крок, хоць задушыся сваёй жа дзяжкай! Вельмі трэба. І хутчэй. Ну, мужчынскі гонар заядае, душу з'ядае, поедам есць, да цела дабраўся! Ну, трэба, ну! Халера яго ведае чаму, але трэба.

Васіль злаваўся, як галодны сабака на кароткім ланцугу, з міскі якога нахабна жарэ чужы кот, на сённяшнія, і не толькі сённяшнія паводзіны каханай. Дастала яна ўжо яго сваёй нязгодай і няпэўнасцю ў гэтым пытанні, як калгас селяніна. У яго ўсё значна прасцей. Так, дык так, не, дык не! А яна жуе смаркачы і ні глынае, ні выплёўвае. З ім так нельга!

Васіль жа звычайны вясковы хлопец са шматдзетнай вясковай сям'і. З дзяцінства прывучаны да працы, як калгасны конь. Увогуле — як конь. Не толькі калгасны. У школе нічым асаблівым не вызначыўся, акрамя таго, што неяк прывалок у клас на ўрок рускай мовы і літаратуры казу ды прывязаў яе да крэсла настаўніцы. Чамусьці мясцовыя падшпаркі любілі найбольш паздзекавацца менавіта з настаўніц рускай мовы. Саму казу запхнуў пад стол. І як настаўніца за стол села, напалоханая каза рванула з месца, як савецкая ракета, і панесла настаўніцу, аж пакуль тая не зляцела з крэсла і нешта сабе не пашкодзіла як у спіне, так і ў псіхіцы ў дадатак.

І яшчэ некалькі падобных подзвігаў было на яго рахунку. Прывязваў кубаркі да хвастоў вясковым катам, каб пасля гаспадары іх лавілі, каб вызваліць ад тых бляшанак. А зласціць ката з прывязанай да хваста кубаркай не кожнаму пад сілу.

Таксама вешаў бульбу на вокны настаўнікам, каб тая ад ветру ўсю ноч ім барабаніла і не давала выспацца. Мяняў людзям брамкі на платах, закрываў комін шклом. Ды ўсё не ад злога. Дзеля смеху ўсё. Такі вось быў энергічны падшпарак. Але мясцовы ўчастковы міліцыянер да яго бацькоў, Гудзеяў, на размову пра паводзіны Васіля не заходзіў. Хоць участковаму скардзіліся на хлопца і настаўнікі, і іншыя паскудныя ябеды. Проста бацькі Васіля не гналі самагонкі. Ну дык чаго да іх хадзіць таму ўчастковаму?

Ну, а зараз, пасля таго як Васіль закахаўся і стаў думаць пра сям'ю, ніхто пра яго кепскага слова не сказаў, як пра бацюшку. Працаваў, як прыгонны, у калгасе шафёрам. Піў у меру. Не больш, чым каб напіцца. Прынамсі, іх пыльная вясковая вуліца не памятае, каб ён валяўся на ёй, як на ўласным ложку. І вясковыя платы не могуць згадаць выпадку, калі хлопец, напіўшыся, буяніў бы ды дзёр з іх баляскі, як ветэрынар гнілыя зубы ружовым вясковым парсючкам з прыватных хлявоў. І за хатай дагледаў. А ўзорнасці яго агарода пазайздросціла б кожная калгасная даярка.

І да дзевак іншых ні нагой. Адна Аленка ў галаве.

Невядома, да якіх далёкіх межаў зацягнулі б скручаныя ў парашутныя стропы нервы Васіля ў яго крыўдзе на Алену і ў яго ж рашучасці абвострыць сітуацыю да поўнай капітуляцыі дзяўчыны і ці перайшоў бы ён тыя межы, як кантрабандыст з забароненым таварам ці мо як вайсковы агрэсар са зброяй, каб не веліч вясковай беларускай раніцы, якая ў прыродзе сваёй мае выключна мірныя матывы. Матывы, што прыцягваюць дабрыню і ласку, сцішаюць і нейтралізуюць агрэсію, залагоджваюць нервы і крыўды, проста супакойваюць... І гэты водар лугавых красак, што напаўняе ваваколле, і гэты спеў вады ў рачулцы, і шчэбет птушак, і шэпт ветру, і пах ранішняга туману...

Пах ранішняга беларускага туману!!!

І яго смак разам з пахам! Калі хто хоць раз напоўніцу ўдыхнуў на ўсе грудзі, і ўсёй сваёй сутнасцю пах ранішняга беларускага туману, той ніколі не забудзецца яго водару і смаку ажно да скону. Каб якомусь кулінару ўдалося хоць крыху наблізіцца да таго смаку, гурманы ўсяго свету насілі б яго выяву як ікону. Каб хоць якому на свеце парфумеру ўдалося хоць крыху наблізіцца да паху ранішняга беларускага туману, усе іншыя вынаходніцтвы ў галіне парфумерыі знайшлі б свой апошні супакой у гарадскіх сметніцах...

Ды і лекарам — неўрапатолагам там, псіхолагам, псіхіятрам і іншым падобным — варта было б паспрабаваць адшукаць гармонію ў душах сваіх пацыентаў праз пах ранішняга беларускага туману...

А што? Беларусы за свой туман нават грошай не бралі б. Уласцівасці ў таго туману такія, што рука не падымаецца браць за яго грошы, хоць ён і твой. Збіралі б лекары задарма той туман ля беларускіх азёр і рачулак у свае колбы, а пасля адчынялі б перад раз'юшаным пацыентам, і той супакойваўся б без усялякай шкоды для здароўя ад хімічных прэпаратаў.

Перакананы, што атрымалася б. Васіль жа супакоіўся. Не стаў агрэсіўнічаць. І гэта ўсё водар ранішняга беларускага туману. Васіль проста вырашыў цяпер узяць дзяўчыну хітрасцю. І юнацкая прымітыўная хітрасць заключалася ўсяго толькі ў тым, каб знешне дэманстраваць Алене сваю злосць і рашучасць. Тую злосць і рашучасць, якія ўжо пад уздзеяннем паху ранішняга туману, які мае яшчэ адну лячэбную ўласцівасць — выветрываць туман з галавы, пачыналі імкліва ісці на спад.

Алена таксама патрапіла ў палон кахання, хоць у войску не служыла і пра палон мела выключна тэарэтычныя ўяўленні. І ў каго закахалася?! У Васіля! Смех, ды і толькі. Сэрца стала няроўна на яго стукаць недзе праз год пасля таго, як ён яе пакахаў. Яна так прыдумала сабе. Звычайная, мутная, як Налібоцкае балота, версія простай вясковай дзяўчыны.

Але і праўда, не адразу ён ёй глянуўся. Спачатку думала: ну, чым ён лепшы за іншых? І так гляне, і гэтак, і збоку, і спераду, і ў профіль, і ў анфас. Хлопец як хлопец. Такіх тут хоць трактарам вывозь — ніколі не скончацца. Ды яшчэ з вёскі сваёй дрымучай, закінутай, і, па словах начальства, вельмі бесперспектыўнай, выязджаць не хацеў. Нават у сталіцу, у Мінск не хацеў выязджаць. У сталіцу больш чым куды не хацеў.

А вось Алена, як і ўсе вясковыя дзяўчаты, хацела ў горад. Аж млела, як прыпадачныя пры міліцыі. А Васіль — хлопец безнадзейна вясковы. З ім да Мінска не дабрацца. Хоць ён і да Прагі на вядры даляцеў, а да Мінска тут і пешшу не асабліва запыхаешся, але не любіў ён горада. Казаў, што ў канюшні лепш, чым у горадзе. Чысцей дыхаецца.

Мара пра горад то не пакінула Алену і зараз, як захацела звязаць свой лёс з гэтым патрыётам роднай вёскі. Скрэбла па сэрцы, як мыш пад падлогай. Але ж каханне ўмяшалася. Каханне яно і ёсць каханне! Яно вышэй за ўсё! Яно даецца звыш! Так напісана ў разумных кніжках з іх бібліятэкі, якія яна перачытала ўсе да адной, і ад вокладкі да вокладкі. І да раённай бібліятэкі дабралася. Васілю хацела распавесці пра тое, што там напісана. Але Васіль кніжкамі не цікавіцца, дурань такі. Яму толькі адно ў галаве, каб хутчэй заваліць яе ў кусты і авалодаць. Вось жа гад які!

А яна ўжо гатовая дзеля свайго абранніка ўсё сваё жыццё тут, у гэтай бесперспектыўнай вёсцы, гной віламі трэсці... І быкам на калгаснай ферме хвасты круціць...

І хутка яны пажэняцца. Бо закахаліся... Яна пагадзілася выйсці за яго яшчэ раней, чым ён прапанаваў. Так яго кахае...

Але чаго ён спяшаецца авалодаць ёй? Вось жа дзе кныр які! Жарабец, адно слова. Сволач якая! Хіба ўжо меў дзяўчат, паганец!

* * *

— Мне хутка на работу, Лена, — сказаў Васіль усхвалявана.

І так пагледзеў ёй у вочы, што здавалася яго позірк праз вочы пранік ёй у душу, у самую глыбіню душы, і там застыў як стаў зімой.

— Ты абяцала, што сёння падумаеш, — даклаў хлопец словы да позірку.

— Ну дык падумаць — не значыць пагадзіцца, — шапнула яна.

— А што гэта значыць? — свядома падымаў ён планку напружання ўсё вышэй.

— Падумаць.

— І што ж ты надумалася?

— Ну, Васіль, ну, не злуйся. Ну, не магу я так. Дай я яшчэ падумаю да вечара.

— Так кожны дзень! Так нельга!

— Ну чаго ты спяшаешся? Ну, можа, вечарам я адважуся, — прашаптала яна.

Але не магла адвесці вачэй ад яго пранізлівага як у лясной гадзюкі позірку. Ранейшы пяшчотны, мілы позірк ператвараўся ў злы, люты, нецярпімы, рашучы і настойлівы. Васіль нават не міргаў. Ну, дакладна як гадзюка.

Яна ўжо не баялася ні цемры, ні святла. Яна баялася гэтага жорсткага позірку свайго мілага, ласкавага, добрага, пяшчотнага, каханага хлопца.

— Я настойваю тут і цяпер, — працягваючы спапяляць яе позіркам, патрабаваў раззлаваны хлопец.



— Ты што, ужо светла! Людзі паўставалі! Убачаць! Пасля ад сораму ў бульбу хавацца буду ці аж пад венік позірк замятаць. А як бацькі даведаюцца, то заб'юць! Табе гэта трэба? Пашкадуй!

— Было цёмна — ты баялася цемры, стала светла — ты баішся святла. Калі гэта скончыцца? Ну, а людзі — накласці ім на грудзі! Яны ў нас ніколі не спяць! Ні днём ні ўночы! Усё бачаць і так. Вось калі каго абкрадуць, ці абрабуюць, ці заб'юць нават, дык ніхто з іх нічога не ўбачыць. А як з каханай дзяўчынай выйдзеш, то бачаць кожны рух. Такія ў нас людзі. Ад іх нікуды не схаваешся: ні пад венік, ні ў бульбу! Такія яны тут. Але яны самі па сабе, а мы самі па сабе.

І глядзіць сваімі расшыранымі зрэнкамі праз яе вочы прама ёй аж у душу.

— Я настойваю! — дабіваў ён яе.

Яна яшчэ не паспела разгледзець у яго паводзінах прадуманы найгрыш. Не паспела разгадаць Васілёву хітрасць, якая палягала акурат на тым, каб збянтэжыць дзяўчыну сваёй найгранай да максімальнага накалу незадаволенасцю ды злосцю і прымусіць яе здацца, як абложаны з усіх бакоў замак, на міласць пераможцы. Здацца па ўсіх правілах вядзення вайны — і ўсё тут! Ну, рукі ўгору, не супраціўляцца, выконваць усе загады і ўсё там такое.

Васіль адчуў яе збянтэжанасць, як воўк авечку. І падумаў, што менавіта цяпер самы час яе дабіць. Самы час на галоўны аргумент. Яна засумнявалася ці напалохалася, не важна. Трэба дацiснуць! Цяпер або ніколі! Ну, ніколі — у дадзеным выпадку — гэта значыць аж да шлюбу.

— А можа ты што ўтойваеш ад мяне? — сказаў ён горлам.

Не вуснамі сказаў, не голасам, а менавіта горлам. Аж сам не пазнаў свайго голасу. Ды што там голас! Сам сябе не пазнаў. І не ведаў, чаго ў тым голасе і ў тым пытанні больш: гульні, найгрышу, надуманых эмоцый ці сапраўдных эмоцый, без усялякіх гульняў.

— Што? Што я магу ад цябе ўтойваць? — спалохалася дзяўчына.

Яна сапраўды спалохалася не на жарт. Як маленькае куранятка старога ліса. Як некалі даўно, калі яшчэ маленькай дзяўчынкай ёй прысніла жудасны сон. Яна яшчэ яго Васілю не расказвала. Такі ён жудасны. Але тое быў сон. А тут вось ён, жывы, сапраўдны, каханы і злы... Ды што ж гэта такое?! Яна не магла зразумець, што з ім робіцца. І не ведала, што ёй рабіць. Можа, лепш на сёння развітацца. Але кідаць яго ў такім паскудным настроі таксама кепска. Наробіць яшчэ бяды якой. Гэты можа.

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ

# Святочныя традыцыі вёскі Тапаркі

Майстар-класы па выкананні даўніх святочных аздабленняў, якімі ўпрыгожваліся хаты ў перыяд Раджджаства Хрыстовага і іншых зімовых свят, паспяхова прайшлі 8 снежня ў святліцы вёскі Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны. Традыцыі, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне, добра памятаюць старэйшыя жыхары Тапаркоў, якія прыбылі на сустрэчу. Маглі пазнаёміцца з імі малодшыя жыхары вёскі і прыезджыя, якім асабліва цікавым было выконваць саламяныя аздабленні для ўпрыгожвання дамоў.

У святліцу на нядзельную сустрэчу прыбылі жыхары Тапароў, як гэтую вёску называе карэннае насельніцтва сяла і наваколля. Мерапрыемства было арганізавана ў перыяд Філіпавага посту Гарадскім асяродкам культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях у супрацоўніцтве з Гуртком вясковых гаспадынь, якому старшынюе солтыс Тапаркоў Вяслава Бакун. Майстар-класы па выкананні даўніх святочных аздабленняў з саломы вяла народная пісьменніца і майстрыха па саломапляценні Зоя Майстровіч з Рудутаў, ураджэнка Тапаркоў.

— У хаце маіх бацькоў спяваць калядкі пачыналі ў час поснай вячэры, якую называлі ў нас першай Калядой, напярэдадні Увядзення Прасвятой Багародзіцы ў храм, якое адзначаецца 4 снежня. Пасля гэтага свята дзяўчаты пачыналі рабіць аздабленні, якімі ўпрыгожвалі хаты. Калі ў нашых дамах паявіліся ёлкі, дзяўчаты таксама выконвалі аздабленні, каб упрыгожыць імі ялінкі. Хлопцы ў перыяд Філіпавага посту аднаўлялі і аздаблялі старыя або выконвалі новыя звёзды. У Тапарах у час Раджджаства Хрыстовага дзяўчаты хадзілі па хатах і славілі Хрыстовае Нараджэнне без звёзд. Хлопцы калядавалі са звёздамі асобна, у сваіх кампаніях, — пачала расказваць Зоя Майстровіч пра падрыхтоўку да Хрыстовага Нараджэння і вучыла выконваць аздабленні з саломы, якія робіць з дзяцінства. — У час папярэдніх майстар-класаў мы выканалі саламяны павук, які ўпрыгожылі яшчэ тонкай паперай і падвесілі ў святліцы пад столлю. Сёння я пачала вучыць рабіць з саломы звёздачкі розных кшталтаў і іншыя цікавыя аздабленні.

Калі Зоя Майстровіч выйшла замуж у суседнюю вёску Рудуты, выплятала там з саломы каробкі і іншыя вырабы, якія масава выконваліся ў сямідзясятыя і васьмідзясятыя гады ў Тапарках, Рудутах і суседніх сёлах для продажу.

— У Тапарах у мінулым толькі хлопцы калядавалі са звёздамі. Мы часта спатыкаліся ў час посту, каб нанова абклеіць і ўпрыгожыць звязду, вучыліся спяваць калядкі. Звёзды былі ў нас толькі аднарадавыя, але розніліся колькасцю фанароў. Старэйшыя хлопцы насілі з сабой звёзды з большай колькасцю фанароў. Дзяўчаты калядавалі ў нас днём, а хлопцы — калі пацямнела. Спявалі мы калядкі пад хатамі, а звёзды былі падсветленыя полымем свечак і добра было відаць на іх прыгожыя выцінанкі. Часта здаралася, што ад свечак загараліся звёзды, трэба было іх тушыць. Пасля свечкі мы памянялі на лямпачкі. Калядавалі перш за ўсё ў сваёй вёсцы. Аднак бывала, што нашы хлопцы хадзілі калядаваць у суседнія вёскі, а хлопцы з суседніх сёл спявалі калядкі ў нас, — расказаў Віталь Соха з Тапароў, які выконваў святочныя аздабленні.

— У час Раджджаства Хрыстовага ў Тапарах яшчэ калядуюць школьнікі. Гэта нашы дзеткі, тыя, якія прыедуць да бабуль з гарадоў. Бывае, што наведваюць нас калядніки з Сакоў. Нашы жанчыны калядуюць, каб сабраць грошы і купіць нешта для прыхадской Дзмітрыеўскай царквы ў Саках, — расказала жанчына з Тапаркоў.

— Другая Каляда — гэта посная ўрачыстая вячэра напярэдадні Раджджаства Хрыстовага, якая завяршае перыяд Філіпавага посту. Мой бацька ў гэты дзень прыносіў у хату сноп жыта, які ставіў у кутку пад іконамі, а пад сталом раскладваў сена. Я рашылася выканаць з жыта аздабленне, якое можа замясціць сноп збожжа, што ставіўся каля поснага стала ў час другой Каляды. Гэта мой аўтарскі праект такога аздаблення з жыта, якое можна паставіць на стале, — расказвала Зоя Майстровіч. — У кутку пакоя стаяў гэты сноп жыта ад Раджджаства Хрыстовага ажно да трэцяй Каляды, якая папярэджвала Хрышчэнне Гасподняе. Тады арганізавалася такая самая посная вячэра, як у час першай і другой Каляды. Мы тады, памаліўшыся, пілі асвечаную ваду, а бацька адрэзваў калоссе ад снапа збожжа, мачаў у асвечаную ваду і акрапляў клуню, хлявы, каня, кароў і авечак, свіран і дом. Крэйдай бацька рысаваў на будынках крыжы і мы верылі, што ўсё гэта робіцца, каб Бог ахоўваў нас, жывёлу і ўсю гаспадарку ад злога і ўсялякага няшчасця. Сена з-пад стала давалі ў корм каню і каровам, каб добра гадаваліся, а саломай са снапа жыта абвівалі яблынькі, каб добра раслі і каб зайцы не аб'елі кару. Усе тры Каляды гэта посныя дні. Перыяд ад Раджджаства Хрыстовага ажно да Вадохрышча быў вельмі радасным, спынялася тады рукадзелле ў час святых вечароў. Гэтую радасць адчувалі таксама мы, дзеткі і моладзь. У час Багатага вечара, які мы называлі таксама «Гагатухай», што паводле старога стылю папярэджваў першы дзень Новага года, моладзь у Тапарах рабіла розныя фокусы. Дзяўчаты гадалі, каторая першай выйдзе замуж і ў якім напрамку жыве будучы муж.

— Я выхоўваўся з сёстрамі і памятаю, як яны і іх сяброўкі гулялі на «Гагатуху». Рассыпалі ў хаце збожжа, кожная дзяўчына прыносіла з куратніка па курцы і сачылі, чыя курка першая з'есць зерне. Гэта прадвяшчала, што тая першай выйдзе замуж. Дзяўчаты перакідвалі таксама праз хату галошы, глядзелі, у якім напрамку яны абернуцца і тады меркавалі, што з гэтага напрамку будзе муж, — сказаў Віталь Соха.

— У Багаты вечар высыпалі дарожкі з попелу і саломы паміж панадворкамі, дзе жылі хлопец і дзяўчына, якія лічыліся нарачонымі. На Новы год на вуліцы валялася многа саломы, якую трэба было заграбаць, — удакладніла жыхарка Тапароў.



Зоя Майстровіч (трэцяя справа) у руках трымае свой аўтарскі праект аздаблення з жыта





— Прыгожыя аздабленні з саломы, якія выконваем паводле даўніх узораў, гэта цікавы і павучальны досвед. Мы абсталявалі дом на даўні лад. Нас цікавяць традыцыі з мінулага, — заявіла сужонства з Варшавы, якое адпачывала ў Тапарках і прыняло ўдзел у майстар-класах.

— Я жыву ў Гайнаўцы, а пра майстар-класы па выкананні аздабленняў з саломы даведалася ад дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажаты Клімовіч. Рашылася я прыехаць на заняткі і бачу, што дачка ахвотна займаецца і меншае дзіця ўважліва сочыць за працай, — заявіла маладая жанчына, якая апекавалася сваімі дзеткамі.

Удзельнікі майстар-класаў выканалі многа цікавых аздабленняў з саломы, якімі ў мінулым упрыгожваліся вясковыя хаты. Жанчыны з Гуртка вясковых гаспадынь у Тапарках аздабленнямі ўпрыгожаць святліцу і ялінку, паколькі запланавалі арганізаваць перад святамі вясковую Куццю.

— На супольную Каляду запрашаем усіх жыхароў Тапароў. Запрасілі таксама іераманахаў Мужчынскага манастыра святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках, паколькі да гэтага прыхода належаць жыхары нашай вёскі. Карыстаючыся выкананымі сёння аздабленнямі, будзем упрыгожваць нашу ялінку і святліцу. У нас ёсць намер з'есці тады посную вячэру, паспяваць калядкі і ўспомніць, як калісь святкавалі Раджджаства Хрыстовае, — заявіла солтыс Тапаркоў Вяслава Бакун.

Хаця ў прыгожа адрамантаванай святліцы было цёпла, сабраным былі падрыхтаваныя гарачыя гарбата, кава і пачастунак.

— Жанчыны з Гуртка вясковых гаспадынь у Тапарках вельмі актыўна дзейнічаюць і многа робяць. Нядаўна адбылося падсумаванне этнаграфічнага праекта «Залаты каласок, залатая саломка». У яго рамках у Тапарках адбыліся майстар-класы па выпечцы хлеба, спяванні жнiўных песень і арганізаваўся абрад «Перапяліца». Сёння праходзяць майстар-класы па выкананні святочных аздабленняў з саломы (падобныя ладзіліся раней). Жанчыны з Гуртка вясковых гаспадынь у Тапарках занялі чацвёртае месца ў Алімпіядзе вясковай актыўнасці і атрымалі дзве тысячы злотых узнагароды, — расказала Яўгенія Казімерук, інструктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

1 ☞ працяг

# У Нарве лакальна і свойска



торбы з традыцыйнымі матывамі. І яднаюць успаміны — запісаны былі размовы з найстарэйшымі жыхарамі Нарваўскай гміны (у чым дапамагла Магдалена Гардзееў-Побат з Польскага Радыё), зроблены кружэлкі (уручаныя ўдзельнікам). Выслухалі на адмысловай сустрэчы гэтых жывых успамінаў усе ўдзельнікі майстар-класаў і іх сябры. Успаміны пра даваенны, ваенны і пасляваенны час былі часам вельмі дакладныя — некаторыя ўдзельніцы за ўсё жыццё вялі дзённік і нават пісалі мемуары, дык у памяці захаваліся розныя дэталі пра старую Нарву і акалічныя вёскі, пра сяброў-яўрэяў і іхні лёс. Вядома, аўтары сваіх міні-мемуараў не спадзяваліся, што раптам спатрэбіцца яны шырэйшаму колу атрымальнікаў, дык сустрэча, на якой прагучалі іх увекавечаныя галасы, прывяла да хвалявання і вялікіх эмоцый таксама іх суседзяў і сяброў, у большасці старэнькіх і з нялёгкай гісторыяй сваёй і іх сем'яў.

— Як грамада стваралася ў Трасцянцы, то там было на адну асобу больш як у самой Нарве! — прыгадвае Васіль Салавянюк, удавец, які з жонкай пражыў 65 гадоў. А пазнаёміліся яны ў царкве, бо дзе ж ладзяцца найбольш моцныя сужонствы! Успамінае дакладна, з імёнамі, усіх хто здрадзіў сумленне і вясковыя хрысціянскія прынцыпы (гэта ўжо ў размове з намі). Гэта так як павінна застацца ў памяці, да скону. Каб справядліва было, трэба каб у памяці не зацерлася...

З нагоды запісаў былі ў Марыі Кур'яновіч, Яна Пляскoвіча, Леакадыі Каранкевіч, Яніны Францкoвяк, Ірэны Карпюк, Аляксандры Якубоўскай, Юліі Якубоўскай, з ваколіц Ласінкі — у Анны Ніканчук, Анны Тэслюк, Ніны Пэршка, Мікалая Колнера, Надзеі Хадакоўскай, Вольгі Анцутка. Былі і ў Трасцянцы, і ў Пухлах... Там тыя асобы ўдалося сабраць у святліцы разам. Там рэй вяла Галена Тапалянская, якая ў Трасцянцы выхавала некалькі пакаленняў. Там так многа памятаў Васіль Салавянюк...

— Вы дзяліліся з намі кавалкам свайго жыцця, — адзначыла Магдалена Гардзееў-Побат. — Тое, што вы былі так адкрытыя на мяне, асобу з-па-за асяроддзя, гэта вялікая заслуга Ані Савіцкай-Анджэюк, якая была са мною пры кожнай размове, пры кожным запісе. Запісалі мы каля 10 гадзін чыстай размовы. Гэта прапала б, калі б мы не паспелі. А так застанецца ў памяці ўсіх жыхароў, у хроніках гміны і сеціве. Вялікі скарб. І вялікі шанц для развою ўсёй грамады Нарваўскай гміны, які разварухнуў таксама моладзь, якая праверыла свае сілы ў журналістыцы. Таксама — вялікі крок у вопыце мясцовых аніматараў, якіх шэрагі павялічыліся, незалежна ад іх узросту і сілы. А сіла — у грамадзе!

❖ Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**











Як паводзіць сябе на мітынгах?

10 фактаў пра правы чалавека

Дзве дзяржаўныя мовы, але здзяйсняюцца толькі з адной

## http://dumka.me

Прэсу называюць вартавымі псамі дэмакратыі. Праўда, з такім сцвярджэннем наўрад ці згодныя ў краінах, пра дэмакратыянасць якіх можна часцей за ўсё пачуць уласна ад узурпаваўшых уладу правіцеляў. Там, як напрыклад у Беларусі, прэса падзяляецца на праўладную і незалежную. Стаўленне да першай — як да нечага свайго і да таго ж падначаленага, каму заўсёды можна загадаць як пісаць і што пісаць.

Стаўленне да другой часткі прэсы — як да чагосьці варожага і непатрэбнага, што мусіць быць калі не выкаранена, то па меншай меры моцна прыціснута. Зразумела, у такіх варунках казаць аб развіцці медыярынку зусім не выпадае, бо дай Бог, каб здолелі захавацца тыя астраўкі свабоднай незалежнай прэсы, якія дагэтуль існуюць.

Аднак жыццё не стаіць на месцы і прэса, нават такая кволая, як у беларускай краіне, таксама. З'яўляюцца новыя людзі, якія маюць патрэбу ў данясенні сваіх думак і поглядаў да людзей праз друкаванае ці агучанае слова. І, відаць, ім, маладым, хочацца, каб гэтае слова было вольным. На попыт узнікае і прапанова, якая дае шанц навучыцца азам журналісткі, прычым журналісткі вольнага погляду.

Адну з такіх ініцыятыў можна лічыць сайт „Студэнцкая думка", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://dumka.me.** Гэтая ініцыятыва з'явілася ў актывістаў арганізацыі „Задзіночанне беларускіх студэнтаў" і з'яўляецца месцам, дзе, паводле іх можна навучыцца ствараць тэксты, цікавыя менавіта для студэнтаў. „Мы студэнты й студэнткі альбо нядаўна скончылі вучыцца. Мы — частка беларускай адукацыйнай прасторы, і нам баліць за яе якасць. Мы не прафесійныя журналісты і журналісткі, але нас задзяўбло, што ў Беларусі няма медыя для студэнцтва. Таму мы вырашылі зрабіць усё самі: „роўныя роўным". „Студэнцкая думка" — гэта не проста студэнцкае медыя. Гэта інфармацыйная прастора, дзе мы агучваем праблемы, абмяркоўваем іх і салідарызуемся", — распавядаюць яны на старонцы „Пра нас".

Стварыўшыя дадзеную інфармацыйную пляцоўку актывісты сцвярджаюць, што пішуць пра беларускую краіну і тое, што датычыцца студэнтаў Беларусі — пра якасць адукацыі, адсутнасць акадэмічных і палітычных свабод ва ўніверсітэтах. Галоўнае, на чым, па думцы актывістаў, мусяць будавацца артыкулы — гэта падыходы, заснаваныя на правах чалавека і каштоўнасцях Балонскага працэсу і Еўрапейскай агульнаадукацыйнай прасторы.

Калі праглядаць размешчаныя на сайце артыкулы, то сапраўды яны напісаныя згодна вышэй азначаных прынцыпаў. Напрыклад, адзін з тэкстаў, якія з'явіліся ў мінулым снежні, прысвечаны Сусветнаму Дню правоў чалавека. Там распавядаецца не толькі пра змест Усеагульнай дэкларацыі гэтых правоў, але і пра гісторыю яе напісання, філасофскае абгрунтаванне, прававы аспект.

Як сцвярджаюць актывісты, кожны жадаючы можа стаць часткай каманды СД („Студэнцкай думкі") альбо навучацца ў „Школе СД". „Хвалюешся, што не шарыш у журналістыцы і медыякантэнце? Мы навучым. Галоўнае — матывацыя, каштоўнасці і гатоўнасць мяшкі варочаць, а не балбатаць", — гаворыцца на сайце і адзначаецца, што „калі ні адна з пазіцый не падыходзіць, не хвалюйся, а проста пішы на пошту".

❖ **Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

# 110 гадоў з дня нараджэння Вацлава ПАНУЦЭВІЧА

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык Вацлаў Папуцэвіч (у эміграцыі Панучэвіч) нарадзіўся 2 студзеня 1910 г. у вёсцы Малая Альшанка (Гродзенскі раён). Паводле іншых звестак у вёсцы Гожа. Паходзіў з сям'і беларусаў-каталікоў. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Быў выключаны з яе за беларускую дзейнасць. З 1936 г. вучыўся на юрыдычным факультэце Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Удзельнічаў у працы „Акадэміцкага кола сяброў Беларусаведы" (1936-1939). Адзін з арганізатараў „руху маладых адраджэнцаў". З 1935 г. сябра БХД. З 1 снежня 1935 г. сябра рэдкалегіі „Студэнцкай трыбуны", моладзевага дадатку да „Беларускай крыніцы". У 1935-1938 гг. быў рэдактарам часопіса „25 сакавіка" (лістапад 1936 — сакавік 1938). Пасля расколу БХД у 1936 г. належаў да „Беларускага фронту" ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Браў удзел у выданні газеты „Беларускі фронт". За артыкул „Залежнасць ці незалежнасць" у № 3 за 30 жніўня 1938 г. быў засуджаны на год турмы ўмоўна.

У верасні 1939 г., з пачаткам Другой сусветнай вайны, Пануцэвіч мабілізаваны ў 81-ы стралковы полк, які фармаваўся ў Гродне. 22 верасня 1939 г., пасля заняцця савецкімі войскамі Гродна, трапіў у палон. Быў вызвалены і жыў у Гродне. Паводле Баляслава Грабінскага, прыкладна ў 1940 г. да Пануцэвіча ў Гродна ад варшаўскіх беларусаў прыбыў сувязны, які насамрэч быў агентам НКВД, але Пануцэвіч *„адразу западозрыў, што пасылаюць хлопца бальшавікі, і заявіў у НКУС"*. Нейкі Пануцэвіч у 1940 г. выкладаў у гродзенскай школе № 1 беларускую мову і літаратуру. Вядома, што восенню 1941 г. ён жыў у Гродне па адрасе: вуліца Паўночная, 5. З пачаткам нямецкай акупацыі ў кастрычніку 1941 г. разам з Адамам Русаком Пануцэвіч ездзіў у Вільню з мэтай наладзіць сувязь з Віленскім Беларускім Нацыянальным Камітэтам. Паводле Язэпа Малецкага, яго кандыдатура разглядалася мясцовымі нямецкімі ўладамі на пасаду бургамістра Гродна. Вёў настаўніцкія курсы пры Гродзенскім БНК. 27 кастрычніка 1941 г. разам з Я. Малецкім сустракаўся з гродзенскім епіскапам Антоніем па справе беларусізацыі праваслаўнай царквы і арганізацыі ў Гродне беларускай праваслаўнай семінарыі. У сярэдзіне лістапада 1941 г. пераехаў з Гродна ў Баранавічы. У 1941-1944 гг. працаваў у падкантрольнай немцам адміністрацыі акругі Баранавічы.

З 1944 г. Пануцэвіч у эміграцыі — спачатку ў Германіі, у перасыльных лагерах, дзе займаўся арганізацыяй беларускага скаўтынгу, а пасля 1949 г. — у ЗША. Жыў у Чыкага. Узначальваў Задзіночаньне беларускіх скаўтаў на чужыне. Кіраўнік скаўцкай дружыны „Арлы" ў Чыкага. У 1950 г. — сакратар Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады, з траўня 1950 г. — віцэ-старшыня Беларуска-амерыканскага каталіцкага таварыства. У пачатку 1960-х гг. заснаваў выдавецтва „Беларуская выдавецкая сябрына". Выдаваў рэлігійна-гістарычныя часопісы: „Беларуская царква" (выдаваўся кірыліцай), „Літва" (лацінкай). Быў жанаты з дачкой Эдзюка Будзькі — Ірэнай. Пакінуў значную творчую спадчыну. Апрацоўваў і выдаваў казкі, чытанкі, пераклаў на беларускую мову „Падарожжа Гулівера да волатаў..." Джонатана Свіфта, напісаў некалькі кніжак пра беларускі скаўтынг. Зрабіў пераклад літургіі св. Іаана Залатавуста (Чыкага, 1958). Напісаў шэраг грунтоўных прац па гісторыі Беларусі.

Памёр Вацлаў Пануцэвіч 25 жніўня 1991 г. у Чыкага. Пахаваны на могілках Святога Адальберта ў Найлсе, прыгарадзе Чыкага.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

*Дар'юш ЖУКОЎСКІ*

* * *

Хто першы зімой выразаў ялінку,
У лесе каля Грыбаўцоў,
Такую зялёную і прыгожую,
На жывую святочную ёлачку,
Не завялікую і не замалую,
Якую затым паставіў у сваім доме,
У кутку пакоя,
І асвятліў ноч лямпачкамі,
Каб стала яшчэ больш прыгожай,
Калі ззяла ад свята,
Каб заспяваць,
*Во Віфлееме, во Віфлееме весела навіна:*
*Чыстая Дзева, Чыстая Дзева породіла Сына,*
Які асвятляе наша жыццё,
І тут, і там каля Грыбаўцоў.



**Дзед Мароз з Гайнаўкі**

Фота Янкі Целушэцкага

## Рэстаран „Пры граніцы"

Напрыканцы лістапада гэтага года наведаў я Гарадок Беластоцкага павета. Пасля поўдня хацеў з'есці абед. Спытаў у краме пры галоўнай вуліцы, дзе тут ёсць рэстаран. Аказалася, што ў Гарадку такога няма. Ёсць на ўскраіне мястэчка бар. Параілі мне падацца ў суседнія Валілы-Станцыю.

Там я хутка знайшоў пры самай шашы з Беластока ў Баброўнікі прыгожы ды прасторны рэстаран і бар „Пры граніцы". Побач на вялікай пляцоўцы стаяла многа вялікіх ды шыкарных грузавікоў, якія затрымаліся ў дарозе за нашу дзяржаўную мяжу ў Рэспубліку Беларусь або якія адтуль вяртаюцца дадому. Гасцініца тут вельмі патрэбная. Карыстаюцца ёю замежнікі перш-наперш вадзіцелі аўтафураў і турысты.

Калі ўвайшоў у сярэдзіну будынка, я быў прыемна ўражаны — шыкоўна там, цёпла, утульна. Ёсць тут і гатэль для ўсіх прыезджых. На першым паверсе можна пераначаваць. У прыгожа абсталяваным рэстаране вялікі выбар страў, між іншым, шэсць розных супоў, смажаная смачная рыба міруна, мясныя катлеты, варанае і тушанае мяса рабрынкі, грудзінкі, г. зв. «схабовы», пячонка і бігас. Можна заказаць дранікі, яечню, паштэцікі, варэнікі, фасольку па-брэтонску. Усе стравы смачныя. За суп з пячурыцамі, філе з міруны (гэта дарагая рыба) з бульбай і салатам, кампот ды кубак моцнай кавы з цукрам я заплаціў усяго 18 злотых. Аб'ект „Пры граніцы" адкрыты кругласутачна. Пабудаваў яго ў Валілах-Станцыі нарвавскі „Пронар".

Варта дадаць, што ў вышэйзгаданым рэстаране адбываюцца, між іншым, вяселлі, хаўтуры, навагоднія балі, банкеты, прыватныя імпрэзы па заказе (з нагоды імянін, дня нараджэння) і маладзёжныя танцавальныя вечарыны. **(яц)**

# Пачытай мне, мама...

Можа, пачну так. Ад верша.

**Прачытай мне мама,**
Яшчэ раз,
Старыя кнігі,
Такія сапраўдныя,
Для дзяцей,
І я абяцаю быць ветлівым,
І не буду цябе турбаваць,
І запамятаю кожнае слова,
Якое сабе прыгадаю,
Калі буду чытаць ужо сам,
Свае кніжкі для дарослых.

Сардэчна дзякую ўсім (асабліва ганароваму журы) за прызначэнне мне першага месца ў XXII Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы «Дэбют». Я вельмі цешуся гэтай узнагародай. Гэта паэтычны конкурс, які мае ўжо даўнія традыцыі. Варта, каб ён працягваўся і развіваўся. Можа, калі-небудзь наша „Ніва" таксама абвесціць сусветны конкурс беларускай літаратуры? Мары? Так, але яны могуць спраўдзіцца. Гэта залежыць ад усіх нас. Ад пісьменнікаў, чытачоў і рэдактараў, а таксама ад спонсараў і прыхільнікаў гэтага конкурсу.

Калі мне ўручылі прыз, я таксама прынёс нешта ад сябе ў гэты дзень у падарунку (акрамя вершаў). Я перадаў усім удзельнікам конкурсу невялікую кніжку з серыі «Пачытай мне, мама» (з гэтым маім вершам).

«Пачытай мне, мама» — выдавецкая серыя кніжачак, якая выходзіла ў выдавецтве «Nasza Księgarnia» з 1951 года. Кнігі былі маляўнічымі, першапачаткова па 24 старонкі і 16 см па памерах, створаныя многімі аўтарамі. Час, праведзены за чытаннем гэтых кніг быў чароўным момантам нашага дзяцінства. Казачны свет тэксту і ілюстрацый пераносіў нас у краіну вясёлых, загадкавых гісторый, часам звязаных з жыццём. Фантастычны свет прыгод, сустрэч, выклікаў і падзей. Некаторыя казкі і апавяданні былі вельмі рэалістычнымі, каб дзеці маглі атаясамліваць сябе з героямі. Яны расказвалі пра дзіцячую дружбу, мары, ідэі. Гэта свет, які хіба ўжо крышачку не існуе...

«Пачытай мне, мама» гэта таксама час, праведзены разам з бацькамі. Гэтыя моманты часта бываюць перад сном, калі пасля цэлага дня стомленыя бацькі ўсё яшчэ мелі сілы і жаданне быць з намі. Бясцэнны! Гэта быў ужо час навучання самастойнага чытання і развівання фантазіі. Менавіта «дзіцячая літаратура» запамінаецца і трапляе ў «сэрца». Яна там жыве шмат гадоў.

Маёй марай была б цэлая серыя такіх кніжак, напісаных нашымі аўтарамі і выдадзеных па-беларуску. У нас ёсць такія аўтары! Ёсць і ілюстратары. Такую серыю можна назваць, напрыклад, «Наша зорачка» . Наша ўласная серыя «Пачытай мне, мама», якая таксама дапаможа захаваць памяць аб нашых матулях, бацьках. І запамятаць іх словы, калі мы станем ужо вялікімі і зможам чытаць кнігі для дарослых.

**Дар'юш ЖУКОЎСКІ**

# 05.01 — 11.01

**(22.03. — 20.04.)** Дзейнічай з одумам і цярплівасцю. Кіруйся голасам сэрца і інтуіцыі, гэта вырашыць праблемы, пры якіх розум бездапаможны. Важная змена ў пачуццёвым жыцці. На працы многа задач, паслядоўна іх зрэалізуеш, дзякуючы трываласці і добраму адчуванню нагод здзейсніш свае прафесійныя мары. Дзейнічай адзін, час не вельмі добры на калектыўныя дзеянні ці заснаванне суполак. Калі заслужыш узнагароду, прымі табе належнае. Цані свае поспехі.

**(21.04. — 21.05.)** 9-11.01. шампанскі настрой. Здаецца, заспакойваеш патрэбы родных коштам уласнага шчасця. Не бойся, твае страхі беспадстаўныя. Цяжкасці будуць меншыя, чым спадзяешся. На працы карысныя прапановы ці вяртанне неаплачанага. Пара пачаць дзеянні па рэалізацыі тваіх планаў; не перай-майся, што ўмовы яшчэ неідэальныя. Шчасце дзякуючы працы дзеля супольнай мэты.

**(22.05. — 22.06.)** 7-9.01 аўтарытэт кагосьці дасведчанага дапаможа вырашыць твае праблемы. Час рэфлексіі над важнай для цябе праблемай ці аспектам жыцця. Ствараў новыя планы, дзякуючы якім будзе шанц на паляпшэнне тваёй сітуацыі. Не прыспешвай поспеху, будзь цярплівым у чаканні вынікаў. Кінь тое, што ад цябе будзе залежаць, нават важнае. Справы пойдуць сваім ходам.

**(23.06. — 23.07.)** 9-11.01. разбярэшся добра ў чужых інтэнцыях. 9-11.01. прыліў моцнай энергіі. Можа твае планы былі асуджаны на паразу і трэба будзе пачаць штосьці новае. Не знішч толькі зарана таго, што для цябе было каштоўным. У пачуццёвым жыцці мусіш вызначыць межы. У жыцці самотнага пявіцца хтосьці вельмі цікавы. На працы можаш адчуць сябе як са звязанымі рукамі, магчымыя спазненні, памылкі. Шчасце дзякуючы ўмацаванню сувязі з родам.

**(24.07. — 23.08.)** 9-11.01. справішся са стрэсам на працы. Важныя будуць матэрыяльныя справы. Адчуеш сябе шчаслівым і адораным лёсам, але думай цвяроза. Выразна назаві свае пачуцці партнёру. Не ігнаруй сваіх патрэб. На працы карысны час, можаш рэалізаваць свае прафесійныя мары. Чакай поспеху; зловіш карысныя нагоды. Дзейнічай няспешна, не дайся зхлавіць «лёгкім» прапановам. Адпачывай!

**(24.08. — 23.09.)** Шукаючы працу, пастаў на новыя знаёмствы і кантакты. 7-9.01. пачуеш многа зычлівых слоў. Планаванне новых дзеянняў. Будзь адкрытым на новыя задумы і ідэі, усе рашэнні абдумвай. У пары горача, але і з гарачымі спрэчкамі. Пытайся і кіруйся тактоўнасцю, не дадумвайся. Пільнуйся тых, хто хочуць выйграць ашуканствам. Ты будзь ганаровым, — выйграеш. Трымайся сваіх прынцыпаў.

**(24.09. — 23.10.)** Калі хтосьці цябе інтрыгуе, пазнаеш які ён ёсць 9-11.01. На працы зацісні зубы і перартрымай час 8-15.01. Штосьці ў тваім жыцці стане пастаянным. Самотныя Шалі пачнуць цікавае знаёмства. У старых парах горача і з пасіяй. На працы кемлівасць і пранікнёнасць, удалыя негацыяцыі. Твой запал ажывіць іншых. Здарэнні прыспешацца, будуць цікавыя весткі, новыя праекты. Дзейнічай хутка і рашуча.

**(24.10. — 22.11.)** Па-амбітнаму падыдзеш на цяжкіх спраў і не спачнеш, пакуль не дойдзеш да мэты. Праб'ешся са сваімі задумамі. Не будзь лішне сціплым! Будуць выклікі, патрабуючыя поўнай тваёй адданасці. Пакажаш свае ўмеласці, павялічыш свае кампетэнцыі. Можаш паставіць на змену ўмоў на працы. Карысныя змены. Не адкладвай падарожжа. Смела змагайся за важныя для цябе справы.

**(23.11. — 22.12.)** Год пачнеш з прытупам! 9-11.01. будзеш беспамылковы і неабходны ў фірме. Будзеш вырашаць аб важным, а напрамак, які цяпер выбярэш, будзе вырашальным для твайго жыцця, без сумненняў і засцярог — гэта ключ да твайго шчасця. Шчасце і стабілізацыя ў пачуццёвым плане. Шчаслівa на экзаменах.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш мець сілу, якой ніколі не меў! 4-12.01. сутычка з вельмі цяжкім працаўнікам. 5-9.01. можаш дзейнічаць «у цёмна». Але ад 6.01. (аж да 18.) можаш апынуцца ў безвыходнай сітуацыі. Патрабуеш пацвярджэння сваёй вартасці. На працы шанцы дасягнуць таго што хочаш. Праекты даводзь да канца. Памагай, і не адмаўляйся ад дапамогі табе. Не шкадуй сабе вітамін, асабліва на талерцы.

**(21.01. — 19.02.)** Фінансы ўвесь студзень няблага. На працы не вырывайся перад шэраг. Паканчай незавершаныя справы. Не высільвайся, выніку прыйдзецца пачакаць. 11.01. твае прадбачанні спраўдзяцца. 9-15.01. чакае цябе візіт ва ўстанове. Не будзь заўзятым і нягнуткім. Цяпер можа лепш табе залезці пад плед і папіваць гарбату з лімонам.

**(20.02. — 21.03.)** На працы адмоўся ад «гонак пацукоў». 5-9.01. уводзь дробныя змены; 7-9.01. можаш разглянуцца за новым заняткам, вучыся новаму, павышай кваліфікацыі. Вернуцца ўнутраны спакой і бестурботнасць. Будзеш упэўнены ў новай грамадзе, сярод радні і ў партнёрстве. Самотным — шанцы на новыя трывалыя рэляцыі. Толькі сітуацыя на працы можа пакласціся ценем на асабістым шчасці. Будзь шчырым і паслядоўным у дзеянні. Шчасце ў сямейнай блізкасці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. лётчык, туз паветранага бою = 17 _ 8 _;
2. колішні лясны вулей = 19 _ 20 _ 10 _ 11 _ 22 _;
3. насякомае з жорсткім надкрыллем = 16 _ 15 _ 28 _;
4. касметычная мазь = 23 _ 4 _ 9 _ 6 _;
5. рака ў Пэру, якая зліваючыся з Мараньёнам дае пачатак Амазонцы = 12 _ 25 _ 24 _ 18 _ 21 _ 13 _;
6. раённы цэнтр Віцебшчыны на рацэ Ушача = 7 _ 1 _ 5 _ 2 _ 3 _;
7. лоб = 14 _ 29 _ 27 _ 26 _.

**(ш)**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Ачаг, джып, Зойка, клей, рой, ртуць, уюн, шум.

Рашэнне: **Гадзюку найлепш трымаць чужой рукой**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

(заканчэнне)

# Стракаты верасень

**15 лістапада ў Варшаўскім універсітэце адбылася 5-я Міжнародная навуковая канферэнцыя,ладжаная Цэнтрам беларускіх штудыяў Універсітэта. Тэма канферэнцыі: „Падзелены/аб'яднаны край: Беларусь і Польшча ў верасні 1939 года". У канферэнцыі прынялі ўдзел вучоныя з абедзвюх названых краін.**




Сяргей Токць, Ежы Гжыбоўскі, Аляксандр Смалянчук, Ежы Мілеўскі, Рыгор Лазько

**Рыгор ЛАЗЬКО**: — Беларуская гістарыяграфія адносна маладая, яна пачалася ў пачатку XX стагоддзя, далей апынулася пад прэсіяй таталітарнага рэжыму, была нішчана і запалохвана дзясяткамі гадоў, а пасля таксама наступіў не надта спрыяльны час, і зноў яна пачала адраджацца. Але трэба мець на ўвазе, што перажыўшы такія нялёгкія часы, яна астаецца гістарыяграфіяй нашага народа. Старэйшае пакаленне беларускіх гісторыкаў, гэта дзеці і ўнукі былых сялян, якія мелі свае адносіны з памешчыцкім класам, пераважна польскім. Адсюль, на маю думку, паходзіць у нейкай ступені захаваны антыпольскі комплекс у беларускай гістарыяграфіі. Усё што было з Польшчы ўспрымаецца як панскае, сацыяльна чужое, а ўсё што прыйшло з усходу, гэта ўспрымаецца як сацыяльна блізкае. Гэты сялянскі, антыпамешчыцкі комплекс, на жаль, засеў у ментальнасці шмат каго з нашых гісторыкаў. І некаторыя не змаглі пазбавіцца сталінскіх поглядаў на гістарычны працэс, у тым ліку і на Польшчу. Калі гаварыць пра праблематыку, якую тут сёння разглядаем, то ў нашых гісторыкаў пераважае ідэя, што ў верасні 1939 года быў здзейснены акт гістарычнай справядлівасці. Значыць рукамі Гітлера і Сталіна было здзейснена аб'яднанне беларускага народа. Далей за гэту формулу шмат хто з гісторыкаў не ідзе. Беларускім гісторыкам няма ніякіх прычын кантэставаць, што ў такой форме была вырашана такая гістарычная задача; відаць, гісторыя не знайшла іншага спосабу дапусціць аб'яднанне беларускага народа. Беларускі народ пасля дваццаці год існавання аўтарытарнага рэжыму санацыі і таталітарнага сталінскага рэжыму зрабіў тое што мог зрабіць, здолеў жыць, развівацца і мусіў прыняць тое, што з рук Гітлера і Сталіна прапанавала яму Яе Вялікасць Гісторыя. І нарэшце цяпер узнікла магчымасць свядома гэтым дарам распарадзіцца.

**Ежы ГЖЫБОЎСКІ**: — Па-мойму бачанне падзей верасня 1939 года залежыць ад таго, з якога асяроддзя выводзіцца той ці іншы даследчык. Агрэсія з усходу ўспрымаецца па-рознаму даследчыкамі з розных асяроддзяў. У сучаснай польскай гістарыяграфіі гэта карціна даволі складаная. Ёсць даследаванні, якія праліваюць святло на польска-беларускія адносіны ў міжваенным перыядзе і ў пачатковым этапе Другой сусветнай вайны. Бывае, што прымаецца пункт гледжання аднаго толькі боку, напрыклад адносна да нападзенняў на прадстаўнікоў польскіх улад. Што беларускае насельніцтва ставілася так а не інакш, відаць былі для гэтага прычыны. Кожны мае права мець свае погляды, толькі тыя погляды не павінны праецыравацца на навуковую сумленнасць.

Тут мелася на ўвазе, м.інш. г.зв. скідзельскае паўстанне, калі ў верасні 1939 года на вестку пра ўваход савецкіх войск у Польшчу былыя члены КПЗБ учынілі ў Скідзелі мяцеж супраць польскіх паліцыянтаў і чыноўнікаў. З Гродна прыбыў польскі вайсковы атрад, які ўціхамірыў баевікоў. Загінула тады некалькі дзясяткаў людзей з абодвух бакоў. Падобныя падзеі, як паведаміў Сяргей Токць, адбыліся і ў іншых мясцовасцях, напрыклад, у Азёрах.



Тадэвуш Гавін і Альжбета Смулкова

**Генадзь СЕМЯНЧУК**: — Мячык па вывучэнні гэтай праблемы знаходзіцца на беларускім баку. У вузкім коле гісторыкаў мы займаемся гэтай праблематыкай, але не ўводзім яе ў масавую свядомасць

**Сяргей ТОКЦЬ**: — Некаторыя архівы, якія былі даступныя дзесяць гадоў таму, зараз недаступныя. Беларуская афіцыйная гістарыяграфія гэтай тэмай у прынцыпе не цікавіцца.

**Аляксандр СМАЛЯНЧУК**: — У 1940-х гадах была створана савецкая гістарычная камісія пад кіраўніцтвам акадэміка Мінца. Члены камісіі ездзілі па мясцовасцях і размаўлялі з людзьмі. Было сабрана шмат цікавага матэрыялу пра акупацыю, які меў быць выкарыстаны савецкай прапагандай. Але не быў выкарыстаны. А там шмат запісаў з 1944 і 1945 гадоў ад жыхароў Беларусі. У нас часта не забараняюць карыстацца фондамі, але папросту пра іх не інфармуюць і ніхто пра гэта не ведае.

**Ежы МІЛЕЎСКІ**: — Мы часам хвалімся, што ў міжваенны перыяд удавалася нам супрацоўнічаць з меншасцямі, але ж дамінавала палітыка нацыянальнай асіміляцыі, а не дзяржаўнай. Многія беларускія дзеячы былі крытычна пастаўлены да гэтай палітыкі, балазе, што тая прапаганда была падбухторвана камуністамі. Вайсковае польскае асадніцтва было не надта буйнае, але як яно было выкарыстоўвана — што забіралі зямлю, калі людзі, што вярталіся з бежанства, вярталіся на пустое поле. Была вера ў шчаслівасць у Савецкім Саюзе. Адзін з камуністычных дзеячаў расказваў, што яны ўзыходзілі на прыгранічную горку, каб пабачыць тую краіну шчаслівасці. Некаторыя ж лічылі СССР краінай шчаслівасці, а потым аказвалася, што тае шчаслівасці не было. У 1939-1941 гадах стаўленне насельніцтва да карціны Савецкага Саюза, у тым ліку і беларускага, вельмі змянялася.

**Генадзь САГАНОВІЧ**: — У афіцыйных беларускіх установах ёсць афіцыёзнае кіраўніцтва, але і працуюць там нашы гісторыкі, якія не кіруюцца ідэалагічнымі ўстаноўкамі. Прасавецкія ўстаноўкі могуць быць у прадмовах ці нейкіх юбілейных выданнях, але ў навуковых працах тых установак амаль не відаць, гэта працы дабротныя.

**Ежы МІЛЕЎСКІ**: — Было пытанне: пры каторых саветах было лепш? І адказ: пры першых. Чаму? Бо былі кароткa. І слова пра навуковае супрацоўніцтва. У Беластоку некалькі гадоў таму створана сецць усходніх універсітэтаў, якія мелі займацца ўсходняй праблематыкай. І найбольшым дасягненнем гэтага праекта было сарганізаванне двух матчаў жаночых валейбольных каманд.

**Альжбета СМУЛКОВА**: — Я належу да пакалення, якое перажыло 1939 год. Я яго жыва памятаю. Незалежна ад тых перажыванняў, я ўсё жыццё займалася людской тоеснасцю, мовамі памежжа і асабіста даследавала цэлы шэраг вёсак, так у Польшчы, дзе пражывае беларускае насельніцтва і польскае. З вашай дыскусіі прымаю вельмі станоўчае сцвярджэнне, што 1939 год з'яўляецца трагедыяй незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, бо адно з другім часта злучаецца. І вельмі важная адказнасць даследчыкаў, асабліва гісторыкаў, як да тых даследаванняў сумленна падыходзіць. Бо ў цяперашнія нашы часы, не толькі ў Польшчы, не толькі ў Беларусі, Расіі ці ў блізкіх суседзяў, пачынае вельмі выразна нарастаць нацыяналізм у дрэнным разуменні гэтага слова. Не патрыятызм, толькі менавіта нацыяналізм, мяжуючы амаль з фашызмам. І таму вельмі небяспечнае пагляданне на вопыт 1939 года з якіх-кольвек рэваншысцкіх пазіцый. Гэта найважнейшы пасыл, які хачу вам сёння пакінуць. Мы абавязаны даследаваць тое, што адбывалася, якія былі людскія перажыванні. І не можам грэбціся ў нейкіх рэваншысцкіх настроях. Апасаюся, што часам складана гэтага пазбыцца. Хачу сказаць, што істотнае тое, каб даследаваць сумленна, каб не падкормліваць якой-кольвек нянавісці сярод маладых даследчыкаў і ў агульнасці сярод маладога пакалення. Вы гэтага не перажывалі, вы знаеце гэта з апавяданняў, з архіваў. А я гэта ведаю з вопыту. І страту сям'і, і вывазку ў Сібір, і расстрэл бацькі, і розныя іншыя менш важныя справы. Я гэтага нікому абсалютна не жадаю. Незалежна ад нацыянальнасці, заслуг ці адсутнасці заслуг. Мне важнае тое, каб разумець, што ўсе людзі вельмі падобныя, незалежна ад адрозненняў. Што нас больш яднае, чым аўтэнтычна раздзяляе. І не ствараймa сабе такіх спраў, якія маглі б нас пасварыць. Турбуе мяне адна справа, што столькі вас ёсць, даследчыкаў, кампетэнтных — чаму тут так мала польскага асяроддзя. Ці сапраўды былі выкарыстаны і запрошаны польскія даследчыкі, гісторыкі? Мне кожны раз на вашых канферэнцыях не хапае тае стараны, якая павінна быць найбольш зацікаўлена. А з вопыту ведаю, што вельмі многа людзей цікавіць праблематыка найбліжэйшых суседзяў.

Гэта былі выказванні навуковых аўтарытэтаў пра той верасень 1939 года, калі Савецкі Саюз захапіў Заходнюю Беларусь, які я назваў стракатым, бо бачыцца ён па-рознаму праз розныя прызмы з розных пунктаў гледжання. У ходзе канферэнцыі прагучаў таксама народны куплет, які таксама можна аднесці да шырокага грамадскага бачання разгляданай тэматыкі: „Не баюсь я марозу, не баюсь я холаду, а баюсь я саветаў, каб не здохнуць з голаду".

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960